◂ № 11 (283) ◂ 16 сакавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



МІХАСЬ ТКАЧОЎ

Стар. 15

### КАГО НЕ БЯРУЦЬ У АНІМАТАРЫ

Адшукаць арганізатараў «Майстэрні ўражанняў» было няцяжка. І пасля размовы з кіраўнікам калектыву Віктарам Караваем стала зразумела: анімацыя — гэта не толькі тэрмін з курортаў Егіпту і Турцыі

Стар. 6

### САМАЯ ВЯЛІКАЯ ІНФЛЯЦЫЯ

Менавіта венгерская пасляваенная валюта — пенгё — паставіла рэкорд у сучаснай гісторыі інфляцый. Яе кульмінацыя была зафіксаваная 1 ліпеня 1946 года, калі курс пенгё да долара дасягнуў 4,6х1029

Стар. 11

### БЕЛАРУСЫ Ў ВОЙСКУ ПОЛЬСКІМ

Стар. 14

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

### ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА — ВАЙНА

Успаміны Арсеня Ліса

▸ З НАГОДЫ

# ПРЫВІД БЕЛАРУСІФІКАЦЫІ

Вольга ХВОІН

**Чыноўнікі выдалі дакумент, словазлучэнне з якога мае ўсе шанцы стаць саркастычным афарызмам. «Прымусовая беларусіфікацыя» — вось чаго мусяць цяпер баяцца чыноўнікі, такая выснова напрошваецца пасля азнаямлення з дзяржаўным цыркулярам.**




«У выкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы, дадзеных 24 лютага 2012, у ходзе нарады па выніках правядзення нарады Нацыянальнага музычнага праекта «Еўрафэст», першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.М. Радзькоў звярнуўся да вас з просьбай у 2012 годзе: забяспечваць аптымізацыю расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцей, пастаноўку спектакляў, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзенне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў; прыняць канкрэтныя меры па недапушчэнні правядзення кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый палітыкі прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэння выкарыстання рускай мовы ў іх дзейнасці», — гаворыцца ў лісце да старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара за подпісам намесніцы начальніка ўпраўлення справамі Брэсцкага аблвыканкама Вольгі Клімаховіч. Дакумент патрапіў у рэдакцыю «Нашай нівы», сапраўднасць ліста журналістам у аблвыканкаме пацвердзілі.

Што такое «прымусовая беларусіфікацыя» дазваляюць разабрацца лічбы статыстыкі. На мове тытульнай нацыі ў краіне навучаецца 19% школьнікаў. Пры гэтым яшчэ дзесяць гадоў таму гэтая лічба была істотна большай: у 2001–2002 гадах у Беларусі такіх вучняў было 27,8%. А ў 1993–1994 годзе на беларускай мове навучаліся 76% (!) першакласнікаў. Цяпер жа беларускамоўныя школы размешчаныя ў асноўным у вёсках і невялікіх гарадках.

Таксама з кожным годам усё менш выпускнікоў школ праходзяць тэсціраванне па беларускай мове: у 2007-м такіх было 77 тысяч чалавек, у 2008-м — 68 тысяч, у 2009-м — 63 тысячы, у 2010-м — 67 тысяч, у 2011-м — 52 тысячы.

Да слова: у студзені гэтага года стала вядома, што па ўсёй краіне спыняюцца наборы на спецыяльнасці, звязаныя з беларускай моваю. У Магілёве больш не будуць рыхтаваць педагогаў беларускай, а ў Мінскім педагагічным універсітэце закрытыя адразу чатыры спецыяльнасці беларускай філалогіі.

Вынікі русіфікацыі, а не беларусіфікацыі паказвае і агульнанацыянальны перапіс насельніцтва — ужыванне беларускай мовы скарачаецца. У 1999 годзе 36,7% жыхароў краіны заявілі, што дома размаўляюць па-беларуску, у 2009-м беларускамоўных у побыце засталося ўжо 23,4%. У тым жа 2009 годзе нацыянальнае апытанне НІСЭПД паказала, што 19,8% беларусаў выступаюць за наданне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай. Іншыя дадзеныя ў тым жа 2009 годзе падаваў інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта. Паводле іх, 72% рэспандэнтаў карыстаюцца ў паўсядзённым жыцці рускай моваю, 11,9% — беларускай. У хатніх умовах часта ці час ад часу ўжываюць беларускую мову 35,1% рэспандэнтаў.

Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі доктар філалагічных навук, прафесар Аляксандр Лукашанец тры гады таму аптымістычна заяўляў, што нацыянальная мова атрымлівае ўсё большае распаўсюджванне ў інтэрнэце і канфесіянальнай дзейнасці. «Ужо не рэдкасць, калі SMS пішуцца з выкарыстаннем беларускай лацінкі, а служба ў большасці касцёлаў на беларускай мове — хутчэй традыцыя, чым выключэнне», — адзначаў Аляксандр Лукашанец. Разам з тым на апошнім з'ездзе Таварыства беларускай мовы гучалі меркаванні, што доступ да мовы цягам апошніх гадоў скарачаўся.

Намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім гаворыць, што яна супраць навязвання беларускай мовы, але ў жыхароў краіны абавязкова мусіць быць роўны выбар паміж рускай і беларускай. Каб за апошнюю не даводзілася ваяваць з чыноўнікамі. «Мова мусіць ісці ад душы, а не навязвацца. Але яна мусіць быць прысутная паўсюль, каб людзі мелі выбар, маглі атрымаць адукацыю пабеларуску без дадатковых намаганняў, як гэта ёсць цяпер, каб чалавек у дзяржустанове меў бланкі па-руску і па-беларуску. Я не разумею тэрміну «штучнае скарачэння ўжывання рускай мовы». З людзьмі, якія будуць гаварыць па-беларуску, будуць змагацца, ці як? — задаецца рытарычным пытаннем спадарыня Алена. — Я не схільная бачыць, што гэта дзяржаўная палітыка, бо яна фармулюецца адкрыта. Думаю, што тыя, хто дасылалі гэты дакумент, проста перавысілі паўнамоцтвы».

Дарэчы, Алена Анісім зазначае, што апошнім часам грамадзяне краіны самастойна праяўляюць цікаўнасць да беларускай мовы. «Выкарыстанне яе пашыраецца, мова пачынае пранікаць у фінансавыя структуры, добра прыжылася ў медыцынскім асяроддзі, іншая справа, што пра гэта мала хто гаворыць. Хутка выйдуць правілы дарожнага руху па-беларуску. Усё гэта паказвае, што мова ў грамадстве запатрабаваная. Праўда, ёсць істотная праблема — у вышэйшай школе роднай мовы беларусаў зусім няшмат, — працягвае думку намесніца старшыні ТБМ. — На сённяшні дзень пытанне з навучаннем па-беларуску ў ВНУ стаіць у шэрагу пытанняў маралі. Калі студэнты цікавяцца спецыяльнасцю, крайнай, то мусяць вывучаць беларускую мову. Нацыянальная мова мусіць быць абавязковай для вывучэння, як і ва ўсіх краінах, інакш пра нас увогуле перастануць гаварыць як пра нацыю».

Змаганне з «прымусовай беларусіфікацыяй» найперш выклікае сарказм, а не абурэнне. За столькі гадоў да чаго толькі не прызвычаіліся.

## СКАНДАЛ

### ПІНСК. ПАШКОДЗІЛІ МОГІЛКІ

На старажытных каталіцкіх могілках у Пінску падлічваюць шкоду, зробленую камунальнікамі ў канцы студзеня пры «санітарных працах». Тады рабочыя, абсякаючы галлё з дрэў, апаганілі 15 пахаванняў.

Сваю віну чыноўнікі прызналі і прынеслі прабачэнні. У сувязі з тым, што ў момант разбіральніцтва выпаў снег і схаваў пашкоджанні, было вырашана ў першыя дні пасля яго сыходу праверыць надмагільныя пліты і крыжы. Камунальнікі запэўнілі, што ўсё выправяць, але краязнаўца Эдвард Злобін нагадвае, што ўжо пяць гадоў не могуць знайсці ахоўніка могілак і правесці тэлефон для аператыўнага рэагавання.

«Улады абяцалі, што будзе ахоўнік на могілках і будзе праведзены тэлефон. Першы інцыдэнт адбыўся яшчэ ў 2009 ці 2010 годзе. Тады выхаванцы Дома сірот разбілі 27 помнікаў. Зараз усталяваны рэжым, калі няма праходу і зачыняюцца вароты», — кажа краязнаўца.

Плануецца, што пры надыходзе цяпла на могілках будзе праведзена некалькі акцый па іх упарадкаванню. Усе зафіксаваныя пашкоджанні перададуць камунальнікам.

**Паводле Радыё «Рацыя»**

### НАВАПОЛАЦК. НАСТАЎНІКАЎ АБАВЯЗАЛІ ДАНОСІЦЬ НА ВУЧНЯЎ

Міліцыя горада Наваполацку (Віцебская вобласць) абавязала школьных настаўнікаў выяўляць навучэнцаў, якія ўваходзяць у «нефармальныя моладзевыя групы (у тым ліку эма, готы, антыфа), і паведамляць пра гэта ў інспекцыю па справах непаўналетніх Наваполацкага ГАУС. Пра гэта гаворыцца ў дакуменце, што патрапіў у распараджэнне грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!».

«Для гэтага здзейсніць аналіз ладу жыцця, захапленняў, схільнасцяў кожнага вучня, звяртаючы ўвагу на знешні выгляд (прычоска, адзенне, аксэсуары), наяўнасць атрыбутыкі (стужачкі, значкі і інш.), нетрадыцыйныя прывітанні, выказванні, схільнасць да малявання на сценах, на партах, у сшытках і да т. п.», — гаворыцца ў дакуменце.

Асаблівую ўвагу міліцыя заклікае звярнуць на «выяўленне асоб, якія падзяляюць «скінхэдаўскія» погляды, якія лічаць сябе скінхэдамі, а таксама футбольных фанатаў і фанатаў розных музычных кірункаў (панкі, рэперы, металісты і інш)». «Пры правядзенні гэтай работы выключыць фармальны падыход», — адзначаюць аўтары дакумента.

**Паводле telegraf.by**

### ВАЎКАВЫСК. «ПАЛЯВАННЕ» НА ЦЫГАНОЎ

Міліцыя Ваўкавыску (Гродзенская вобласць) абвясціла «паляванне» на цыганоў, перадае «Беларускі партызан».

Звязана гэта з пачашчэннем выпадкаў «крадзяжоў, махлярстваў, рабаванняў, разбойных нападаў, што здзяйсняюцца асобамі цыганскай нацыянальнасці». «Пры сустрэчы з цыганамі па магчымасці запомніце іх прыкметы, нумар аўтамабіля, на якім яны перасоўваюцца, і паведаміце пра гэта міліцыю па тэлефоне 102», — гаворыцца ў паведамленні ААПП АУС Ваўкавыскага райвыканкама.

### ГРОДНА. ЯК СВЯТКАВАЦЬ ДЗЕНЬ ВОЛІ?

Прадстаўнікі трох гродзенскіх партыяў — АГП, БНФ і БСДГ — падалі заяўку ў гарвыканкам на правядзенне 25 сакавіка ў горадзе мітынгу.

Афіцыйны ліст падпісалі Юры Істомін, Вадзім Саранчукоў і Уладзімір Хільмановіч. Арганізатары мітынгу заявілі для правядзення Дня Волі цэнтральны гарадскі парк імя Жылібера. Гэта было зроблена, улічваючы значнасць гістарычнай даты ў беларускай гісторыі.

«Заяўка пададзена праз пошту, заказным лістом. Асаблівых ілюзіяў і спадзяванняў няма, што гэты мітынг будзе дазволены. Тым не менш, падаем — у першую чаргу з мэтай інфармавання грамадзян пра 25 сакавіка, Дзень Волі. Калі адмовяць, ніякіх несанкцыянаваных дзеянняў на месцы, пазначаным у заяўцы, ніхто рабіць не будзе. Але, напэўна, пасля нарады, пасля ўзгаднення будзе знойдзены іншы фармат, і свята будзе адзначана ў больш сціплай форме, не ў форме мітынгу, але ў нейкай іншай форме», — паведаміў гродзенскі праваабаронца, прадстаўнік БСДГ, Уладзімір Хільмановіч.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# МІНІСТР ЮСТЫЦЫІ НЕ РАЗУМЕЕ

**Міністр юстыцыі Польшчы Яраслаў Говін не разумее, чаму падчас баскетбольнага матчу сярод жанчын Беларусь—Літва ў Быдгашчы быў забаронены бел-чырвона-белы сцяг. Пра гэта Говін заявіў у інтэрв'ю тэлеканалу TVP.**

«Я не разумею матываў такога ўчынку. Усе мы павінны салідарызавацца з тымі, хто змагаецца за тое, што 20 гадоў таму было для палякаў марай. Яны змагаюцца за дэмакратыю і павагу да правоў чалавека», — сказаў міністр.

Нагадаем, што інцыдэнт з забаронай беларускага сцяга адбыўся 25 чэрвеня 2011 года. Служба аховы стадыёну перашкаджала групе беларускіх заўзятараў разгарнуць бел-чырвона-белыя сцягі, а потым з ужываннем сілы выдаліла беларусаў са стадыёну.

Пазней адзін з заўзятараў, каардынатар цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў» Ігар Шчэкарэвіч праз суд і пракуратуру абскардзіў забарону ўжывання сцяга падчас матчу. Аднак такую забарону прызналі правамоцнай суд і пракуратура Быдгашчу.

**Прэс-служба Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў»**

## СМІ

# ЖУРНАЛІСТА ВЫКЛІКАЮЦЬ У ПРАКУРАТУРУ

**Брэсцкі карэспандэнт Радыё «Рацыя» Зміцер Кісель раніцай 13 сакавіка атрымаў позву ў абласную пракуратуру.**

Дакумент прынёс журналісту дахаты ўчастковы, а затым яму яшчэ іператэлефанавалі з пракуратуры, каб упэўніцца, што журналіст атрымаў паперу. Чалавек, які прадставіўся пракурорам аддзелу па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Алегам Леванчуком, цікавіўся, ці разумее Кісель мэту свайго выкліку ў пракуратуру.

З тэлефоннай размовы вынікала, што пракуратура азнаёмілася з некаторымі тэкстамі журналіста ў інтэрнэце і нібыта знайшла там парушэнні заканадаўства. Таксама Кісялю хочуць задаць пытанні датычна яго журналісцкай дзейнасці.

Візіт у пракуратуру прызначаны на 19 сакавіка.

Нагадаем, што з пачатку года ўжо шэраг журналістаў і сяброў ГА БАЖ у рэгіёнах прайшлі праз выклікі ў пракуратуру і КДБ і атрымалі вусныя альбо пісьмовыя папярэджанні ад гэтых структур.

30 студзеня гродзенскую журналістку Гражыну Шалкевіч, якая супрацоўнічае з Радыё «Рацыя», вусна папярэдзілі ў КДБ аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Ад гэтай жа структуры атрымаў 22 лютага вуснае папярэджанне стваральнік сайта «Свабодны рэгіён» з Полацку Яўген Парчынскі. А 28 лютага ў КДБ схадзіў гродзенскі сябра БАЖ Андрэй Мялешка, якога таксама вусна папярэдзілі аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ.

Пракурорскія папярэджанні атрымлівалі пакуль толькі гродзенскія журналісты. 16 лютага ў Гродзенскай абласной пракуратуры афіцыйна папярэдзілі незалежнага тэлежурналіста Міколу Дзятчэню, 21 лютага ўручылі пісьмовыя папярэджанні карэспандэнту Радыё «Рацыя» Віктару Парфёненку і незалежнаму тэлежурналісту Алесю Дзянісаву, 27 лютага — Гражыне Шалкевіч. Усім — за супрацоўніцтва з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі.

**Служба маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

## СПРАВА

# СУД АПРАЎДАЎ СВЯТЛАНУ ЗАДЗЯДЗЮРЫНУ

**Мікіта БРОЎКА**

**Студэнтку фізічнага факультэта БДУ, што была затрыманая 19 снежня 2011 года падчас акцыі салідарнасці з палітвязнямі і атрымала штраф, апраўдаў суд Партызанскага раёна Мінска.**

Паводле слоў Святланы, увечары 19 снежня яна вярталася дадому з вучобы і нават не здагадвалася, што перад касцёлам святых Сымона і Алены адбываецца несанкцыянаваная акцыя.

Калі Святлана ішла каля касцёла, на яе ледзь не наехаў сіні мікрааўтобус без нумароў, з яго раптам выйшлі двое невядомых людзей і зацягнулі яе ўнутр. Потым Святлану адвезлі ў Маскоўскі РАУС, дзе на яе склалі адміністратыўны пратакол, згодна з якім яе абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Ноч яна правяла на Акрэсціна, а на наступны дзень суддзя Партызанскага раёна Абрамовіч прысудзіла ёй штраф у памеры 25 базавых велічынь.

Але дзяўчына вырашыла змагацца з несправядлівасцю і падала касацыйную скаргу на прысуд. Яе разглядаў суддзя Мінскага гарадскога суда Уладзімір Карноў, які адносна нядаўна быў унесены ў «чорны спіс» Еўрасаюза. На дзіва, суддзя пастанавіў адправіць справу на перагляд у суд Партызанскага раёна.

У судзе Партызанскага раёна Мінска справу нанова разглядала суддзя Мар'яна Валчкова. З боку Святланы Задзядзюрынай на судзе сведчылі яе бацька Яўген Задзядзюрын і прафесар фізічнага факультэта БДУ Аляксандр Гарбацэвіч. Менавіта прафесар Гарбацэвіч пацвердзіў, што 19 снежня Святлана знаходзілася на занятках да 19.20 і прыкладна ў 19.30 толькі падыходзіла да касцёла.

Паводле пратакола, складзенага міліцыянтамі, у гэты самы час яна здзяйсняла адміністрацыйнае правапарушэнне. Але, па словах Святланы, у гэты час яна размаўляла па тэлефоне са сваёй маці, і прымацць удзел у акцыі, а тым больш выкрыкваць лозунгі не магла. На судзе дадзены факт быў пацверджаны раздрукоўкай тэлефонных размоў, якую суд запатрабаваў у мабільнага аператара, якім карыстаецца Святлана і яе маці. На думку Святланы, менавіта гэты факт забяспечыў ёй алібі і дапамог дамагчыся апраўдальнага вердыкту. Акрамя гэтага падчас судовага пасяджэння высветлілася, што міліцыянты ўнесілі змены ў пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні пасля таго, як выдалі копію Святлане.

Рашэнне суда, згодна з якім Святлана Задзядзюрына была прызнаная невінаватай, было вынесена 12 сакавіка і ўступіць у законную сілу праз 10 дзён. Да ўступлення ў законную сілу яно можа быць апратэставана пракурорам.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗА ТАЙНАЕ ГАЛАСАВАННЕ

**Марат ГАРАВЫ**

**Каля 250 грамадзян падпісалі зварот да прэзідэнта краіны і старшыні Вярхоўнага суда з просьбай увесці працэдуру тайнага галасавання на пасяджэннях пленуму Вярхоўнага суда.**

Пра гэта паведаміла лідар Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры юрыст Тамара Сяргей. Паводле яе слоў, подпісы пад зваротам сабралі актывісты грамадзянскай ініцыятывы.

У звароце, між іншым, згадваецца, што згодна з артыкулам 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, «чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы».

Як адзначыла юрыст, у ліпені 2011 года набыў моц закон Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя кодэксы Рэспублікі Беларусь па пытаннях удасканалення прававога механізму перагляду судовых пастаноў». Паводле яе слоў, гэты закон прадугледжвае ўвядзенне яшчэ аднаго нагляднага органа — пленума Вярхоўнага суда. «Аднак на пленуме Вярхоўнага суда рашэнні па-ранейшаму будуць прымацца адкрытым галасаваннем», — гаворыцца ў звароце.

Разам з тым, у дакуменце адзначаецца, што «найбольш дэмакратычнай формай з'яўляецца галасаванне тайнае. Падчас яго чалавек прымае рашэнне без якога-небудзь уціску, які magliва здзейсніць чым-небудзь аўтарытэтам, пасадай ці іншым чынам».

«Суд заклікаканы абараняць правы і свабоды грамадзян, канчаткова вырашаць канфлікты на падставе заканадаўства краіны. Судовыя рашэнні непасрэдна ўплываюць не толькі на лёс канкрэтнага чалавека, але і на будучыню яго сям'і. Адна судовая памылка можа крута павярнуць жыццё многіх людзей. Таму ў суда няма права на памылку», — падкрэсліваецца ў звароце.

Дзеля выключэння судовых памылак і стварэння максімальна спрыяльных умоў пры прыняцці рашэнняў падпісанты звароту прапаноўваюць увесці на пасяджэннях пленума Вярхоўнага суда тайнае галасаванне пры разглядзе грамадзянскіх і крымінальных спраў у парадку нагляду і па абставінах, што зноў адкрыліся.

Тамара Сяргей паведаміла, што 14 сакавіка зварот за подпісамі 245 грамадзян з усіх рэгіёнаў Беларусі быў перададзены ў Вярхоўны суд і Адміністрацыю прэзідэнта.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ІНФЛЯЦЫЯ ЗАГАДАЎ НЕ СЛУХАЕЦЦА

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускае кіраўніцтва гаворыць адно, робіць другое, а думае, пэўна, пра трэцяе. Адной рукой змагаецца з ростам цэнаў і абяцае барацьбу з інфляцыяй, другой — уводзіць у абарачэнне новыя грошы, падвышае кошты і робіць выгляд, што «так і было».**




Прыкладам, 12 сакавіка Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам заявіў аб неабходнасці «актыўна весці барацьбу з інфляцыяй». У ходзе сустрэчы разглядаліся пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў студзені — лютым і перспектывы на 2012 год.

«І мы сёння бачым, што мы можам гэта зрабіць. Таму што там, дзе цэны не кантралююцца, яны, наадварот, маюць імкненне да паніжэння. Дзесьці мы цэны выраўноўваем. Таму інфляцыя ў гэтым выпадку ў нас рэгуляваная», — сказаў Лукашэнка.

Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, сёння вельмі шмат гаворыцца пра тое, што ў Беларусі цэны ніжэйшыя, чым у суседзяў, і гэта часткова садзейнічае вывазу тавараў. «Мы дакладна вызначылі, што цэны летась у нас і так добра падскочылі, і калі дзесьці падшліфоўваем, то гэта не павінен быць абвальны рост цэн. Ён павінен быць расцягнуты ў часе і прывязаны да росту даходаў насельніцтва. Ёсць павышэнне зарплат, пенсій, дапамог — тады мы можам у нейкай ступені нават не рухаць цэны, а падшліфоўваць — гэта 0,5–1%, але не больш», — падкрэсліў Лукашэнка.

Мясніковіч прадставіў аналітычную ацэнку эканамічнага развіцця краіны па выніках двух месяцаў гэтага года, праінфармаваў аб чаканых выніках першага квартала і прагнозе па выкананні планавых паказчыкаў 2012 года. Паводле слоў прэм'ер-

> Каментуючы выпуск новай банкноты, эксперты адзначаюць: яе намінал мог бы быць і большым — напрыклад, 1 мільён рублёў

міністра, «эканоміка працуе ўстойліва, у асноўным усе галіны і рэгіёны выконваюць даведзеныя заданні». Ён адзначыў, што добрыя тэмпы развіцця дэманструюць сельская гаспадарка (106,7%), прамысловасць. «Стабільная сітуацыя на валютным і спажывецкім рынках», — праінфармаваў кіраўнік урада. «У знешнім гандлі складваецца станоўчае сальда. На чыстай аснове прыток валюты амаль на паўмільярда вышэйшы, чым адток», — канстатаваў Мясніковіч.

А тым часам, пры «стабільнай сітуацыі» на валютным і спажывецкім рынках Нацбанк прэзентаваў новую купюру вартасцю 200 тысяч беларускіх рублёў. На новай купюры, якая ўводзіцца ў абарачэнне 12 сакавіка, намаляваны будынак Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя Масленікава. На адваротным баку банкноты — дэкаратыўны калаж з архітэктурных элементаў будынка музея.

На банкноце прыменены новыя сучасныя візуальныя элементы абароны, што дазваляе распазнаць яе сапраўднасць. Акрамя гэтага, на новай банкноце застануцца ўжо вядомыя элементы абароны, якія ёсць на банкнотах, што знаходзяцца ў абарачэнні. Новая банкнота будзе пастаўлена ў банкі найбліжэйшым часам. Яе наклад не паведамляецца.

Каментуючы выпуск новай банкноты, эксперты адзначаюць: яе намінал мог бы быць і большым. Напрыклад, паводле меркавання былога кіраўніка Нацбанку Станіслава Багданкевіча, самая буйная банкнота магла быць і ў 1 мільён рублёў. «Што такое самая буйная купюра ў 25 долараў? Мне здаецца, яе кошт павінен раўняцца 100 доларам, а гэта ўжо больш за 800 тысяч рублёў», — падкрэсліў ён.

Вось такі ў нас «стабілізец» на фінансавым рынку. Увядзенне ў дзеянне новай купюры якраз і сведчыць пра тое, што ідзе інфляцыя. А стабільная яна, рэгуляваная ці не — гэта, здаецца, няшмат каго хвалюе. Галоўнае, што яна ёсць.

І адразу за новай купюрай — новыя падаражанні. 14 сакавіка падаражэў цукар. Як паведаміла прэс-служба Мінэканомікі, такое рашэнне зацверджана пастановай міністэрства №16 ад 13 сакавіка.

Дакументам устаноўлена межавая максімальная рознічная цана на цукар-пясок белы без дабавак вагавы — 7 000 рублёў за 1 кілаграм (раней — 6 400 рублёў; рост на 9,4%). Апрача таго, устаноўлена цана на цукар-пясок белы без дадаткаў, расфасаваны ў спажывецкую ўпакоўку звыш 500 грамаў, — 7 500 рублёў за 1 кілаграм (7 000 рублёў; рост на 7,1%). Юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам, якія маюць аб'екты аптовага, рознічнага гандлю і грамадскага харчавання, пастановай прадпісана правесці па стане на 14 сакавіка пераацэнку рэштткаў цукру-пяску белага без дадаткаў у адпаведнасці са зменамі, з аднясеннем розніцы ад пераацэнкі рэштткаў прадукцыі згодна з заканадаўствам.

Нагадаем, цана на цукар у 2011 годзе павышалася пяць разоў, апошнім разам — 23 кастрычніка на 17%.

У той жа дзень канцэрн «Белнафтахім» афіцыйна абвясціў пра першае ў 2012 годзе павышэнне адпускных і рознічных цэн на аўтамабільнае паліва. 14 сакавіка цэны павялічыліся ў сярэднім на 5%. Паводле інфармацыі канцэрна, кошт бензіну Нармаль–80 складае 5 400 рублёў за літр (+300, або 5,6%), Аі–92 — 6 000 (+300, або 5,3%), Аі–95 — 6 450 (+350, або 5,7%), дызпаліва — 6 600 (+300, або 4,8%).

Перагляд цэн канцэрн растлумачыў «ростам каціровак кошту нафты ў сакавіку 2012 года ў параўнанні са снежнем 2011 года на 17%», а таксама неабходнасцю «паэтапнага збліжэння цэн на тавары ў краінах Мытнага саюза і павышэння эфектыўнасці працы беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў». «Дзейныя рознічныя цэны на нафтапрадукты (з улікам павелічэння) застаюцца ніжэйшымі за ўзровень аналагічных цэн у Расійскай Федэрацыі на 18–25%», — гаворыцца ў паведамленні.

Нагадаем, у мінулым годзе паліва даражэла 10 разоў, што выклікала незадаволенасць аўтамабілістаў і акцыі кшталту «Стоп бензін!». За 2011 год Нармаль–80 падаражэў у 2,4 разу, Аі–92 — у 1,99 разу, Аі–95 — у 1,88 разу, дызельнае паліва — у 2,44 разу.

І яшчэ пра тое, што «ў знешнім гандлі складваецца станоўчае сальда». Не забыліся, што гэта словы Мясніковіча? Дык вось: той жа Мясніковіч назаўтра, 13 сакавіка, запатрабаваў дыверсіфікаваць рынкі збыту беларускай харчовай прадукцыі. Пра гэта ён заявіў на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў, на якім разглядаліся вынікі выканання ў 2011 годзе дзяржпраграмы ўстойлівага развіцця вёскі на 2011–2015 гады.

Кіраўнік Саўміна зазначыў, што большасць харчовых тавараў (89%) Беларусі рэалізуюцца на расійскім рынку, 6% — у іншых краінах СНД і толькі 5% — за межамі краін Садружнасці. «Структура экспарту, шчыра кажучы, дрэнная, — канстатаваў ён. — Неабходна дыверсіфікаваць рынкі, каб актыўна працаваць і ў іншых краінах».

Калі ў нас усё добра са знешнегандлёвым сальда, навошта нешта дыверсіфікаваць? Калі ўсё добра працуе — дык хай працуе. А калі трэба нешта дыверсіфікаваць, то, значыць, не так добра яно і працуе?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЛЯПІС ТРУБЯЦКОЙ



Гурт «Ляпіс Трубяцкой» стаў прызёрам галоўнай расійскай рок-прэміі «Чортаў Тузін. Топ 13». «Гэта вельмі важная для нас перамога, — заявіў пасля атрымання ўзнагародаў лідар беларускай групы Сяргей Міхалок. — «Ляпісы» — маленькі незалежны анарха-сіндыкат, мы не ўваходзім ні ў якія шоў-бізнэс-кланы, не ўдзельнічаем у зорных тэлешоў, не наведваем свецкія раўты, не спяваем на праплочаных мітынгах. І тым не менш нас прызналі лепшай групай 2011 года — значыць, мы на правільным шляху».

Яшчэ дзве намінацыі, у якіх перамог «Ляпіс Трубяцкой», — гэта «Паэзія» (песня "Я веру», аўтар слоў Сяргей Міхалок) і «Відэа» (кліп «Я веру», рэжысёр Аляксей Церахаў). Для Церахава, беларускага кліпмэйкера, які жыве ў Канадзе, гэта ўжо 13-я ўзнагарода, якую ён заваяваў у творчым саюзе з «Ляпісамі». А тым часам у вытворчасць запушчана чарговая сумесная праца групы і рэжысёра, у якой на гэты раз змогуць прыняць удзел і прыхільнікі «Ляпіса Трубяцкога».

На днях «Ляпісы» абвясцілі пра пачатак акцыі прамога дзеяння «Ты ні пры чым?», вынікам якой стане відэакліп на адну з новых песень калектыву. Любы жадаючы можа зрабіць у сваім горадзе аўтарскае трафарэтнае графіці. Калі графіці спадабаецца музыкам і рэжысёру Цэрахаву, яно ўвойдзе ў кліп, а яго аўтар атрымае эксклюзіўны падарунак ад гурта «Ляпіс Трубяцкой».

### АЛЕГ СТАХАЕВІЧ



Алег Стахаевіч, лідар створанай на РУВП «Граніт» (Мікашэвічы, Брэсцкая вобласць) незалежнай прафсаюзнай арганізацыі, абскардзіў сваё звальненне ў судзе. Ён падаў у Лунінецкі раённы суд іск з патрабаваннем аднавіць яго на працы і аплаціць вымушаныя пропускі працы.

Стахаевіч паведаміў БелаПАН, што актывісты незалежнай прафсаюзнай арганізацыі накіравалі ў Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, якому непасрэдна падпарадкоўваецца «Граніт», ліст з просьбай абавязаць кіраўніцтва прадпрыемства даць ім памяшканне, якое неабходна для рэгістрацыі «пярвічкі».

«На прадпрыемстве абстаноўка па-ранейшаму без змен. Начальства гне сваю лінію і ціснe на тых, хто падпісаўся пад заявай аб магчымай страйку. Па чутках, ужо больш за дзесяць чалавек адмовіліся ад свайго подпісу», — распавёў Стахаевіч.

Нагадаем, у снежні 2011 года больш за 200 рабочых «Граніту» выйшлі з дзеючай на прадпрыемстве афіцыйнай прафсаюзнай арганізацыі і заявілі аб намеры стварыць першасную структуру Беларускага незалежнага прафсаюза.

У сярэдзіне лютага кіроўца самазвала Алег Стахаевіч быў звольнены з фармулёўкай «неадпаведнасць работніка займаемай пасадзе або выконваемай рабоце з прычыны недастатковай кваліфікацыі».

20 лютага кіраўніцтву РУВП «Граніт» была перададзена заява ад рабочых, што выйшлі з афіцыйнага прафсаюза рабочых, у якой яны паведамілі пра намер правесці папераджальны страйк у выпадку невыканання наступных патрабаванняў: неадкладна спыніць дыскрымінацыю па прафсаюзнай прыкмеце; аднавіць на працы незаконна звольненых Алега Стахаевіча і Людмілу Ліцвінка; даць памяшканне для працы першаснай арганізацыі незалежнага прафсаюза на РУВП «Граніт».

### ВАДЗІМ ЗАЙЦАЎ



Брытанская юрыдычная фірма McCue & Partners накіравала ў Міністэрства юстыцыі Італіі запыт у сувязі з інфармацыяй пра візіт у гэтую краіну старшыні Камітэта дзяржбяспекі Беларусі Вадзіма Зайцава, уключанага ў спіс неўязных у ЕС.

Нагадаем, 28 лютага прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч падпісаў распараджэнне «Аб камандзіраванні В.Ю. Зайцава ў Рым (Італьянская Рэспубліка)». Тэрміны візіту не выдаюцца. У пасольстве Італіі ў Мінску БелаПАН заявілі, што візу дадзенаму грамадзяніну яны не выдавалі.

Як адзначаецца ў запыце брытанскіх юрыстаў, Зайцаў «адказны за ўзяцце закладнікаў і katavanні сябраў палітычнай апазіцыі рэжыму Аляксандра Лукашэнкі пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года». Юрысты цікавяцца ў італьянскага Мінюста, ці сапраўды кіраўнік беларускага КДБ знаходзіўся ў Італіі, і калі так, то чаму не быў затрыманы ў адпаведнасці з Канвенцыяй ААН супраць катаванняў.

У запыце таксама сказана: наведванне Італіі Вадзімам Зайцавым супярэчыць рашэнню Еўрасаюза аб уключэнні старшыні КДБ у спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў.

McCue & Partners дзейнічае «ад імя сем'яў ахвяр беларускага рэжыму», адзначаецца ў дакуменце.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАВАЛЕНКА ПРАЦЯГВАЕ ГАЛАДАЦЬ

Вольга ХВОІН

**Стан Сяргея Каваленкі, які трымае галадоўку, пагаршаецца. Цяпер вязень знаходзіцца ў рэспубліканскім турэмным шпіталі, што месціцца пры следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Сяргей па-ранейшаму патрабуе яго вызваліць з-пад варты, бо не лічыць сябе вінаватым.**



Каваленку абвінавацілі ў парушэнні рэжыму адбывання «хатняй хіміі» — умоўнага пакарання, прысуджанага яму за бел-чырвона-белы сцяг, вывешаны 7 студзеня 2010 года на гарадской навагодняй елцы ў цэнтры Віцебска.

Сяргей Каваленка са снежня трымае галадоўку, увесь гэты час ён знаходзіцца ў вязніцы. Пры росце 180 сантыметраў Сяргей зараз важыць 51 кілаграм, у яго нізкая тэмпература цела — 35,2 градусы, а ціск 90 на 60.

Жонка Сяргея Каваленкі Алена 12 сакавіка мела з ім сустрэчу ў ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Палітвязень працягвае галадаць. «Пра галадоўку ён ўвогуле ўжо не хоча нічога казаць. Ён прыняў рашэнне і прасіў мяне не адгаворваць яго ад гэтага рашэння. Мне вельмі шкада Сяргея, шкада, што ён памірае, а я не магу яму нічым дапамагчы. Усе ягоныя патрабаванні застаюцца ранейшымі — ён лічыць сябе невінаватым», — гаворыць Алена Каваленка.

10 сакавіка Алена Каваленка разам з малалетнімі дзецьмі стаяла ў пікеце за вызваленне мужа, а 14 сакавіка яе з сямімесячнай дачкой і віцебскім прадпрымальнікам Сяргеем Парсюкевічам, у машыне якога яны ехалі, затрымалі ў пастарунку некалькі гадзінаў. Сяргей Парсюкевіч распавёў, што машыну спынілі супрацоўнікі ДАІ, правяралі, ці прышпіленыя рамяні бяспекі на заднім сядзенні, ці ёсць аптэчка. У выніку пастанавілі, што Алена на заднім сядзенні аўтамабіля была не прышпіленая і ўжо ў пастарунку склалі за гэта пратакол. Але Сяргей абвяргае гэта абвінавачванне: «Я ведаю, у якой краіне жыву, таму ўсім сказаў прышпіліцца».

Сяргей Каваленка з'яўляецца сябрам партыі КХП—БНФ. І паплечнікі адносілі ў Генпракуратуру заяву з просьбай тэрмінова шпіталізаваць Сяргея ў звычайную, а не турэмную бальніцу. Да Каваленкі з просьбамі спыніць галадоўку звярталіся лідар КХП–БНФ Зянон Пазьняк, пастар Эрнэст Сабіла, многія грамадскія дзеячы. Ліст з просьбай спыніць галадоўку да адчайнага беларускага актывіста накіроўваў і камісар Еўрасаюза ў пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле. Але гэтых просьбаў галадоўнік не паслухаў. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла накіравала ліст да апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдзія Гуджэроці. Яна прасіць Святы пасад хадайнічаць за Сяргея Каваленку перад уладамі, і ў прыватнасці перад кіраўніком Беларусі.

Улады выдатна разумеюць, да чаго можа прывесці гэтая сітуацыя — фізічныя паказчыкі Каваленкі гавораць пра тое, што незваротнае можа адбыцца ў любы момант. Выпусціць актывіста па яго патрабаванні — «прагнуцца» перад сваімі ўнутранымі апанентамі, чаго за ўладаю не водзіцца. У канфліктных сітуацыях Аляксандр Лукашэнка (а ён не можа не быць у гэтай тэме) заўжды абірае ў якасці аргументаў міліцэйскую дубінку, а не перамовы ці тым больш саступкі. Але сумнеўна, што гэтую сітуацыю пусцяць на самацёк. У беларускім грамадстве цяпер даволі неспакойныя часы — незадаволенасць, раз-пораз успыхваюць лакальныя бунты. Наўрад ці, канешне, падобная ахвяра закране душу далёкага ад палітыкі абывацеля.

* * *

Тым часам да праваабаронцаў з аб'яднання «Платформа» паступіла паведамленне, што ў турме на вуліцы Валадарскага ў Мінску 14 вязняў СІЗА–1 адмовіліся прымаць ежу. 22 лютага вязні абвясцілі масавую галадоўку, пратэстуючы супраць метаду, якімі вядуць следства супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Паведамляецца, што ўсе галадоўнікі — гэта абвінавачаныя па справе пра дзейнасць арганізаванай злачыннай групы ў Пастаўскім раёне Віцебшчыны. Іх справу слухае Беларускі вайсковы суд. У звароце вязні заяўляюць, што матэрыялы іх справы фальсіфікаваліся, на сведак і пацярпелых чыніўся ціск. Аўтары ліста заклікаюць генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь «правесці аб'ектыўную і ўсебаковую праверку грубых парушэнняў закону з боку супрацоўнікаў ГУБАЗ МУС РБ, узяўшы яе правядзенне пад асабісты кантроль». «Еўрарадыё» ў дзяжурнай часці Дэпартамента выканання пакаранняў заявілі: «Няма такой інфармацыі. Я б ёй валодаў. Упершыню чую. Ды не, у такой колькасці мы рэагуем і дакладваем. Чатырнаццаць чалавек? Не, гэта няпраўда, такога няма!»

КРОПКА

# СПРАВА КАНАВАЛАВА І КАВАЛЁВА ЗАВЕРШАНАЯ

**Асуджаныя за арганізацыю тэрарыстычнага акту на станцыі мінскага метро «Кастрычніцкая» 11 красавіка 2011 года будуць расстраляныя. Аляксандр Лукашэнка адмовіў у памілаванні Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву «ў сувязі з цяжарам зробленага злачынства».**

Вярхоўны суд Беларусі 30 лістапада прысудзіў Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва да смяротнага пакарання без канфіскацыі маёмасці.

Канавалаў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбухных прылад, тэрарызме, звязаным з забойствам людзей. Вырак: смяротная кара — расстрэл.

Кавалёў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, неданясенні аб падрыхтоўцы асабліва цяжкага злачынства, аб здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства і асобы таго, хто яго здзейсніў, аб месцы яго знаходжання, а таксама ў дапамозе тэрарызму. Пакаранне: вышэйшая мера — расстрэл.

Суд прызнаў Канавалава і Кавалёва асобамі, якія нясуць «выключную небяспеку для грамадства».

Уладзіслаў Кавалёў пісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, Канавалаў прашэння не пісаў. За Кавалёва ўвесь час змагаліся яго маці і сястра.

Гэтая справа выклікала вялікі рэзананс у грамадстве, прычым многія людзі не давяралі справядлівасці суда, была вялікая кампанія па зборы подпісаў за адмену смяротнага пакарання. Але…



САНКЦЫІ

# СПІС НЕВЫЯЗНЫХ ПАШЫРЫЎСЯ

Генадзь КЕСНЕР

**У чацвер, 15 сакавіка, выехаць за межы Беларусі не змаглі старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Жанна Літвіна і сябра БАЖ, супрацоўнік тэлеканала БЕЛСАТ Міхась Янчук. Крыху раней за межы краіны не выпусцілі сябраў БАЖ Андрэя Дынько і Валянціна Стэфановіча. З нагоды такіх дзеянняў уладаў у дачыненні да журналістаў кіраўніцтва БАЖ прыняло спецыяльную заяву.**

Першымі пра статус невыязных даведаліся палітыкі. 7 сакавіка да літоўскай мяжы не даехалі лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і актывіст АГП Аляксандр Дабравольскі, 10 сакавіка — старшыня Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін і каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» Віктар Карняенка,

Як распавяла на прэс-канферэнцыі 15 сакавіка кіраўнік БАЖ Жанна Літвіна, яна ў гэты дзень у 10.00 мусіла вылецець у Варшаву. Аднак памежныя службы Нацыянальнага аэрапорта «Мінск» зрабіць ёй гэта не дазволілі: у пашпарце Літвіной з'явіўся штамп «У выездзе адмоўлена». Такі ж самы штамп з'явіўся ў пашпарце і журналіста Міхася Янчука, якога а 6-й раніцы 15 сакавіка ў Брэсце знялі з цягніка «Масква–Варшава».



Жанна Літвіна

«Ведаючы пра тое, што ўжо ёсць факты, калі людзей не выпускаюць за межы краіны, свой прыезд у аэрапорт я пачала з кантактаў з памежнымі службамі. Адразу лёгка высветлілася, што я знаходжуся ў спісе асобаў, якім абмежаваны выезд з тэрыторыі краіны. На маё пытанне, хто прымаў гэтае рашэнне і на якой падставе, мне было патлумачана, што звычайна гэта робіць міліцыя. Тады я ўдакладніла: гэта дэпартамент па грамадзянству і міграцыі? «Відаць, так», — адказалі мне. На гэтым наша размова з памежнікамі завяршылася. Мне яшчэ параілі звярнуцца ў «Белавія», каб мне кампенсавалі кошт майго квітка. Мы з Міхасём Янчуком такім чынам папоўнілі спіс невыязных — я ў першую чаргу звяртаю ўвагу на сябраў нашай арганізацыі… Калі будзе падвядзеная рыса, колькі яшчэ нашых калегаў атрымаюць абмежаванне на свабоду перамяшчэння, пакуль што сказаць складана», — адзначыла Жанна Літвіна.

Па словах старшыні БАЖ, спіс асобаў, якія з'яўляюцца невыязнымі, пашыраецца, канфлікт паглыбляецца. Усё гэта адбываецца на фоне супрацьстаяння па лініі Еўрапейскі саюз — афіцыйны Мінск, лічыць Жанна Літвіна. «Па горкай іроніі, гэта адбылося якраз у Дзень Канстытуцыі, артыкул 30 якой гарантуе грамадзянам краіны свабоду перасоўвання… Зараз для нас галоўнае — дамагчыся інфармацыі пра тое, хто тыя спісы складаў і на якой падставе», — заявіла кіраўнік Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Намеснік старшыні БАЖ Андрэй Бастунец падкрэсліў, што гэтыя абмежаванні на выезд з краіны не грунтуюцца ні на якіх нарматыўных актах. «Яны супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і заканадаўству аб парадку ўезду на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і выезду з Рэспублікі Беларусь грамадзян краіны. Пералік прычын, па якіх выезд можа быць абмежаваны, у заканадаўстве выкладзены як выключны, і там няма такой фразы, як у іншых заканадаўчых актах — «…і ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам». Там ёсць жорстка пералічаныя пункты, і ніякіх іншых абмежаванняў няма. Наколькі мне вядома, ніхто з тых калегаў, якіх не выпусцілі з краіны, не меў падстаў для таго, каб са штампамі ў пашпартах ці без іх не быць выпушчаным з Беларусі», — падкрэсліў юрыст.

Як заўважыла Жанна Літвіна, цяпер шмат што будзе залежаць ад вынікаў пасяджэння Савета Еўрасаюза 23 сакавіка, на якім будзе разглядацца і «беларускае пытанне».

15 сакавіка Праўленне БАЖ прыняло спецыяльную заяву з нагоды абмежавання права на выезд з краіны журналістаў і сябраў арганізацыі.

Заява БАЖ, а таксама персанальныя скаргі журналістаў на дзеянні афіцыйных структураў па абмежаванні іх свабоды перасоўвання ўжо 15 сакавіка будуць накіраваны ў адпаведныя дзяржаўныя органы.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ГАНДАЛЬ І ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ ВОЙНЫ

Вольга ХВОІН

**У 2011 годзе, паводле дадзеных Белстату, Беларусь экспартавала тавараў на 40,3 мільярда долараў. Значную частку ў беларускім экспарце — амаль 40% — складае гандаль з краінамі Еўрасаюза. Разам з тым гандаль з заклятым саюзнікам — Расіяй — наадварот, паказвае адмоўныя вынікі.**




Па выніках 2011 года сфармавалася адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі ў памеры 5 453,1 мільёна долараў. У 2010 годзе велічыня адмоўнага сальда складала 9 600,9 мільёна долараў. На паляпшэнне паказчыку па знешняму гандлю істотна паўплывала дэвальвацыя беларускага рубля, праведзеная летась. Нагадаем, што цягам года дэвальвацыя афіцыйнага курсу беларускага рубля склала 189%. «Той эфект, які мы атрымалі ад дэвальвацыі нацыянальнай валюты, на сённяшні дзень у пэўнай ступені вычарпаны, прадпрыемствы-экспарцёры працуюць ва ўмовах стабілізацыі на валютным рынку, таму яны павінны разлічваць на іншыя фактары, чым зніжэнне курсу нацыянальнай валюты», — адзначыў намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Гур’янаў.

Гур’янаў, спаслаўшыся на пературбацыі ў сусветнай эканоміцы, зазначыў, што спрагназаваць гандаль з ЕС сёлета будзе складана. «У гэтай частцы ў нас ёсць пэўная заклапочанасць па захаванні нашых пазіцый на еўрапейскім рынку. Усё будзе залежаць ад таго, наколькі будзе сур’ёзным спад у эканоміках краін Еўрасаюза, што выцякае з праблем канкрэтных краін, у тым ліку ўсім вядомай Грэцыі», — адзначыў намеснік міністра. Як могуць паўплываць на знешнегандлёвыя сувязі дыпламатычныя войны Мінска і магчымае ўвядзенне супраць Беларусі эканамічных санкцый, Гур’янаў не тлумачыў. Праўда, заўважыў: Беларусь разлічвае, што пры прыняцці рашэння аб увядзенні эканамічных санкцый у дачыненні да краіны Еўрасаюз улічыць інтарэсы бізнэсу. «У сучасным знешнім гандлі інструмент эканамічных санкцый і абмежаванняў не з’яўляецца прымальным і прадуктыўным. Мы разлічваем, што пры прыняцці рашэння аб увядзенні эканамічных санкцый ЕС будзе ўлічваць інтарэсы бізнэсу», — сказаў намеснік міністра.

Акрамя таго, падкрэсліў прадстаўнік МЗС, у перыяд крызісу 2009–2010 гадоў Беларусь не спыніла сваіх гандлёвых адносін з ЕС. Еўрапейскія прадпрыемствы, «па сутнасці, выжывалі дзякуючы кантактам з Беларуссю», сцвярджае Гур’янаў.

Цягам 2011 года беларускі экспарт у краіны Еўрасаюза вырас з 7,6 мільярда да 15,7 мільярда долараў, а імпарт з ЕС вырас прыкладна на мільярд долараў. Такім чынам дамінантная роля ў гандлёвых адносінах была за Беларуссю. Асноўны тавар для продажу еўрапейцам — нафтапрадукты, і дынаміка назіраецца істотная. Экспарт беларускіх нафтапрадуктаў у Нідэрланды павялічыўся з 5 мільёнаў тон у 2010-м да 7,2 мільёна тон у мінулым годзе, у Латвію — з 853 тысяч тон да 1,9 мільёна тон, у Італію — са 182 тысяч да 653,6 тысячы тон.

Натуральна, пры такім раскладзе на магчымыя эканамічныя санкцыі хваравіта рэагуе не толькі Беларусь, але і некаторыя краіны ЕС. Напрыклад, газета «Dienas bizness» апублікавала матэрыял са старшынёй праўлення Таварыства садзейнічання латвійска-беларускім эканамічным сувязям Альфрэдсам Чэпанісам, у якім гаворыцца, што ў выпадку санкцый супраць Беларусі, Латвія рызыкуе страціць 4–5% валавога ўнутранага прадукту. Іншыя непрыемныя наступствы гэтага кроку — рост беспрацоўя і скарачэнне грашовых паступленняў у дзяржбюджэт. Таму Чэпаніс спадзяецца, што эканамічныя санкцыі ўсё ж не будуць уведзены, паколькі ЕС і раней неаднаразова папярэджваў Мінск наконт падобных мераў, але ні разу не рэалізоўваў іх на практыцы. Дзяржсакратар МЗС Латвіі Андрыс Тэйкманіс, наадварот, заяўляў, што ЕС, хутчэй за ўсё, прыме рашэнне ўвесці эканамічныя санкцыі супраць Мінску, бо краіны Еўрасаюза настроены вельмі рашуча. Аднак, паводле яго слоў, Латвія не падтрымае ўвядзенне эканамічных санкцый супраць Беларусі.

Эканаміст Сяргей Чалы гаворыць, што пры жаданні ўвесці эканамічныя санкцыі супраць Беларусі, напрыклад, эмбарга на пастаўку тавараў і прадуктаў, нафтапрадуктаў было б няцяжка, бо схемы і асноўныя краіны-спажыўцы не дыверсіфікаваныя. «Тэарэтычна, размова акурат пра тое і ідзе, што ў нас экспарт у Еўропу не дыверсіфікаваны як па краінах, так і па пазіцыях. Да таго ж асноўныя спажыўцы — гэта краіны з ільготным падаткаабкладаннем — Нідэрланды, Кіпр, там жа маюць рэгістрацыю многія кампаніі-пастаўшчыкі. Таму пры жаданні, калі б такое было, гэта не складана рэалізаваць. Нават па схемах, па якіх здзяйсняюцца пастаўкі, гэта было б магчыма зрабіць. Калі адмоўнае сальда будзе расці, то ва ўмовах Беларусі гэта будзе правакаваць аслабленне рубля, і ў выніку падаражанне камплектуючых, тавараў, гэтак далей. А гэта ўжо па ланцужку будзе адбівацца на якасці жыцця ў Беларусі».

Аднак эксперт адзначае, што ўвядзенне сапраўдных абмежаванняў (а не кропкавых, для канкрэтных асобаў, што ў цэлым для дзяржавы малаістотна) — малаверагоднае. «Калі нават па такіх сімвалічных рэчах, як візавыя санкцыі, ЕС дамаўляецца цяжка, то больш сур’ёзныя крокі ўвогуле цяжка ўявіць. Да таго ж улады Беларусі не настолькі кепска сябе паводзяць, каб можна было гаварыць пра ўвядзенне эканамічных санкцый. Былі санкцыі супраць Ірана, але нам да іх яшчэ далёка. Беларусь не нясе пагрозы бяспецы міжнароднай супольнасці, мы маем унутраныя праблемы», — падкрэслівае эканаміст Сяргей Чалы.

27 лютага Савет міністраў замежных спраў краін ЕС прыняў рашэнне пашырыць спіс неўязных у краіны Еўрасаюза прадстаўнікоў беларускай дзяржавы, уключыўшы ў яго яшчэ 21 прозвішча. У адказ беларускія ўлады рэкамендавалі кіраўніцы прадстаўніцтва Еўрасаюза Майры Мора і амбасадару Польшчы Лешаку Шарэпку «выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый». У адказ на гэта ўсе краіны ЕС адклікалі сваіх паслоў з Мінска.

Лідары краін Еўрасаюза 2 сакавіка на саміце ў Брусэлі заклікалі Савет ЕС прыняць «далейшыя меры» ў дачыненні да Беларусі. Удзельнікі саміту выказалі «сур’ёзную і глыбокую занепакоенасць пагаршэннем сітуацыі, якое працягваецца» ў краіне. Яны таксама віталі рашэнне Савета ЕС пашырыць спіс асоб, да якіх прымяняюцца візавыя і эканамічныя санкцыі Еўрасаюза ў сувязі з тым, што гэтыя асобы адказныя за парушэнне правоў чалавека, рэпрэсіі ў дачыненні да апазіцыі і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, а таксама «падтрымліваюць ці з’яўляюцца бенефіцыярамі рэжыму Лукашэнкі».

А між тым, як паведамляе Радыё «Свабода», пяць сябраў парламенцкага камітэта па замежных справах літоўскага Сейма выступілі з заявай супраць увядзення эканамічных санкцый адносна Беларусі.

Дэпутаты Юсцінас Каросас, Віцяніс Андрукайціс, Дайліс Баракаўскас, Міхаіл Мацкевіч і Андрус Шэджус лічаць, што «супраць праяваў аўтарытарызму ў Беларусі павінны прымяняцца толькі палітычныя інструменты ўсіх краін Еўрасаюза».

У заяве дэпутаты сцвярджаюць, што эканамічная ізаляцыя Беларусі падарве эканамічнае супрацоўніцтва суседніх краін і ў выніку пагоршыць фінансавае становішча самой Літвы.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ПРАЗ ЖАЛЕЗНУЮ ЗАСЛОНУ

**Пасля ад’езду амбасадараў краін Еўрасаюза з Беларусі шмат хто пачаў узгадваць пра жалезную заслону. Пры гэтым амаль што кожны разумее самы знакаміты палітычны артэфакт мінулага стагоддзя па-свойму.**



Межы СССР, якія для звычайных людзей трымаліся зачыненымі, пакідалі толькі савецкія разведчыкі, дыпламаты, вайскоўцы, спартоўцы, пісьменнікі, дзеячы культуры ды іншыя. За выключэннем вайскоўцаў, усе катэгорыі выязных былі нешматлікімі. Да таго ж прыватных візітаў амаль не было, а замежны турызм ажыццяўляўся пад пільным кантролем КДБ.

А вось з другога боку, з так званага свабоднага свету, цікавасць да савецкага жыцця была большай. Але абы-каго ў СССР не пускалі. Калі, прыкладам, пісьменнікаў, то толькі прагрэсіўных, палітыкаў — левых і г. д.

Калі Чэрчыль у 1946 годзе сказаў, што «жалезная заслона апусцілася, перарэзаўшы кантынент», ён звяртаўся да сваёй аўдыторыі. Савецкія грамадзяне павінны былі лічыць, што калі заслона і ёсць, то апушчана яна імперыялістамі.

Прыкладна такая ж сітуацыя склалася і зараз, калі старшыня ЦВК прапанавала выключыць амбасадараў краін Еўрасаюза з ліку назіральнікаў за выбарамі ў Беларусі, паколькі яны прадстаўляюць краіны, што ладзяць санкцыі супраць Беларусі.

Карацей, прынцыповая спрэчка зноў скацілася да банальнай нязгоды з тым, што іх кайзер нашаму цару дулю паказаў.

Між тым, размова павінна ісці пра тое, што будучыня Беларусі, незалежна ад стасункаў з Расіяй, якія могуць быць вельмі добрымі, цалкам залежыць ад пазіцый у еўрапейскай гульні.

Дастаткова ўзгадаць пра знешні гандаль з ЕС, з дапамогай якога ўдалося пазбегнуць немінучага калапсу ў мінулым годзе. Пра вартасць пытання сведчыць рэкордны памер імпарту расійскай нафты і экспарту ўласнай сырой нафты. Упершыню за некалькі гадоў.

Ужо сёння Мытны саюз, так званая адзіная эканамічная прастора, абмяжоўвае рост беларускай сельскай гаспадаркі малым спажывецкім попытам і дзяржаўным пратэкцыянізмам. Днямі пра гэта гаварыў Міхаіл Мясніковіч. Па яго словах, большасць беларускіх прадтавараў (89%) рэалізуецца ў Маскве, 6% — у іншых краінах СНД, і толькі 5% — за яго межамі. Паводле беларускага прэм’ера, патрэбна правесці дыверсіфікацыю знешняга гандлю. А гэтага, як лічыць большасць экспертаў, нельга зрабіць, калі не падняць якасць сельскай гаспадаркі да еўрапейскіх стандартаў.

Літаральна за кожным радком кожнай праграмы, якая прымаецца ў Беларусі, у якасці абавязковай умовы выканання бачыцца супрацоўніцтва з еўрапейскімі структурамі.

Але справа не толькі ў эканоміцы, але і ў палітыцы. Празрыстасці ды даверу ў адносінах афіцыйнага Мінску, што на Захад, што на Усход, не стала больш. Вось публічна абвяшчаецца, што жывем мы ў Беларусі, і ні Брусэль, ні Вашынгтон, ні Масква нас «не нахіляць». І тут жа, па тых жа адрасах гучаць абвінавачванні ў прымяненні да Беларусі падвойных стандартаў.

Відавочна, што кіраўніцтва Беларусі прэтэндуе на ўнікальнасць, празмерную для наладжвання плённага супрацоўніцтва з іншымі. І гэта не таму толькі, што мы маем вельмі спецыфічныя ўяўленні пра базавыя еўрапейскія каштоўнасці. Але і таму, што адстаём у развіцці ад суседзяў. Прасцей кажучы, бяднеем і абсалютна, і адносна.

І чым бедныя могуць гандляваць з багатымі? Правільна: наркотыкамі, працоўнай сілай, жывым таварам. Ці прадуктамі нафтаперапрацоўкі, атрыманымі з пакупной сыравіны, на ўмовах вяртання ў суседскую казну значнай экспартнай мыты і вельмі вялікім дэфіцытам для сябе.

Быццам бы і вялікія грошы круцяцца (дзясяткі мільярдаў долараў), а сальда па-ранейшаму застаецца адмоўным. Бо набыткі падвышаюцца не столькі коштам павялічэння вытворчасці, колькі ростам коштаў на нафту ды іншую сыравіну, якую даводзіцца купляць.

Зразумела, калі мы ўжо за дваццаць незалежных гадоў не здолелі рэалізаваць свае стратэгічныя выгоды ў выглядзе зручнага геаграфічнага становішча, адносна кваліфікаванай і таннай працоўнай сілы, то і за наступныя год-два не зможам. Але ж справа ў тым, каб ствараць перадумовы такога будучага развіцця, пашыраючы еўрапейскае супрацоўніцтва.

Што значыць «ісці ў Еўропу»? Гэта значыць, стварыць у сябе еўрапейскія ўмовы грамадскага існавання. Каб з такімі ж лёгкасцю і імпэтам, з якімі амаль усе беларусы аддаюць перавагу заходнім аўто, хоць палова грамадзян аддала перавагу палітычным і сацыяльным тэхналогіям, якія дазваляюць наладзіць іх вытворчасць, усё б хутка змянілася. Еўропа сама прыйшла б у Беларусь.

Зразумела, што гэтым чаканням не адпавядаюць намеры аднавіць жалезную заслону. Гэта непатрэбна і немагчыма, бо Беларусь — не самая вялікая і не самая паспяховая краіна свету — мае гандлёвыя стасункі амаль што з 200 іншымі краінамі. Справа за тым, каб іх развіваць.

▸ ПРЫЗНАЧЭННЕ

# КАГО НЕ БЯРУЦЬ У АНІМАТАРЫ

Вольга ХВОІН

**Яшчэ летам падчас «Цукеркавага фэсту» ў Івянцы маю ўвагу прыцягнулі маладыя людзі ў тэатральных строях, што паспяхова ладзілі інтэрактыўныя забаўкі для гасцей мерапрыемства. Пад Новы год гэтых жа актораў я ўбачыла на адным з карпаратыўных святаў. Уразіла, што беларускамоўная праграма з гістарычнымі персанажамі знаходзіла цёплы водгук у людзей, насуперак стэрэатыпу, што беларускае непатрэбнае і незразумелае. Адшукаць арганізатараў «Майстэрні ўражанняў» («Мастерской впечатлений») было няцяжка. І пасля размовы з кіраўніком калектыву Віктарам Караваем стала зразумела: анімацыя — гэта не толькі тэрмін з курортаў Егіпту і Турцыі. Яна ёсць і ў Беларусі: яркая, цікавая, вясёлая.**



Віктар Каравай

Віктар Каравай кіруе «Майстэрняй уражанняў», хаця ён інжынер па адукацыі. Тэхнар у абліччы рэжысёра! Першыя навыкі акцёрскага майстэрства і рэжысуры Віктар атрымаў у народным тэатры «Звон» пры Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце, як і большасць удзельнікаў калектыву. Тэатр, музыка, танцы, вогненнае шоў — усё гэта можна пабачыць у выкананні маладога калектыву.

— Анімацыйнымі праграмамі для турыстаў у Беларусі займаюцца няшмогія, а пачынаў гэтую справу Алесь Варыкіш (дырэктар фонду «Краіна замкаў», гаспадар аграсядзібы «Шляхецкі хутар Радзевічы» — аўт.). Мой сын працаваў у Варыкіша, ён ведаў, што я займаўся акцёрскім майстэрствам, і, калі ў іх былі праблемы з акторамі, запрасіў мяне падмяніць. Мне спадабалася сама ідэя, але акторскае выкананне, рэжысура, на маю думку, мелі хібы. Праз некаторы час я вырашыў сам стварыць калектыў, які б мог займацца анімацыйнымі праграмамі. І наша першая праграма была па-беларуску, мы ад пачатку арыентаваліся на беларускую мову. Так, у нас ёсць камерцыйныя праграмы па-руску, але ўсе турыстычныя — па-беларуску. Распавядаць гісторыю Беларусі па-руску — нонсенс. Шкада, што экскурсіі ў нас у асноўным ладзяцца на рускай мове. На пачатку ніхто не задумваўся, ці будзе гэты праект камерцыйна паспяховы, нам была цікавая творчасць. Касцяк акторскага складу — гэта былыя студэнты Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Там, да слова, адзін з самых лепшых самадзейных тэатраў Беларусі. Увогуле, у нашым калектыве ад пачатку быў своеасаблівы ролевы падзел: байцы і акторы. Першыя валодалі зброяй, паказвалі візуальныя эфекты, а тэатральны складнік быў за акторамі. Цяпер ролі змешваюцца.

***— На падмостках анімацыйнага тэатру вы тры гады, але выглядае на тое, што справа ваша паспяхова развіваецца...***

— Я б не пагадзіўся з вамі. Мы развіваемся павольна, паступова. Запатрабаванасць у гэтых праграмах насамрэч не такая і вялікая. Я бываю на розных семінарах, што ладзяцца ў турыстычнай галіне, і рэакцыя на паказальныя выступленні пазітыўная. Але калі даходзіць да справы, то ўсё мяняецца: гэты занятак патрабуе многа выдаткаў. Мае калегі жартуюць: «Спачатку мы працавалі за ідэю, потым за ежу, цяпер працуем за маленькі ганарар». Касцюмы, паездкі, арэнда абсталявання — усё патрабуе сродкаў. У нас публіка не гатовая плаціць грошы за выступленне невядомага напаўнення. Калі людзі ідуць у тэатр, то яны ведаюць, што прыблізна іх чакае, з анімацыяй жа малазнаёмыя. Апошнія гады ў краіне з'явілася нямала калектываў, якія займаюцца анімацыйнымі праграмамі, і, варта прызнаць, робяць гэта на нізкім узроўні. Што ў выніку адваджвае людзей.

***— У такім выпадку распавядзіце пра асноўныя складнікі якаснай анімацыйнай праграмы.***

— Зноў жа ўсё ўпіраецца ў фінансавы складнік. Калі людзі хочуць зарабіць, то калектыў набіраюць ледзьве не з вуліцы, усё робіцца без рэпетыцый, без сцэнарыяў, без рэжысуры... Ідэі часта добрыя, а выкананне не надта. Яшчэ адна рыса беларускага бізнэсу — у нас не думаюць пра кліента, як людзі ўспрымуць выступ. Аднаму з музыкаў я аднойчы зрабіў заўвагу, што ён халтурыў падчас выступу. Ён мне кажа: «Ды ладна, гэта ж турысты». Але гэта не падыход, людзі прыехалі, заплацілі грошы, і трэба зрабіць сваю працу для іх якасна, а не адмахвацца, маўляў, п'яныя, ім і так сыдзе! А ў некаторых санаторыях афіцыянткі ды качагары робяць самадзейную анімацыйную праграму для курортнікаў. Разумееце, што ў выніку атрымліваецца!

Перад новым годам я бачыў падобны выступ, то нават сорамна было. З прафесійных арганізацый у нас ёсць «Краіна замкаў» і «Святавід», апошнія працуюць у Лідскім замку, заняліся сваім прафесійным удасканальваннем. Ёсць яшчэ Дзед Мароз у Белавежскай пушчы і Зюзя Паазёрскі ў Паставах. Да слова: усе лясніцтвы атрымлівалі загад мець сваю анімацыйную праграму. Я тры гады займаюся гэтай справай і думаю, што мне яшчэ вельмі далёка да прафесіяналізму, а калі за гэта бяруцца далёкія ад тэатральных навыкаў людзі, то ўвогуле атрымліваецца абы-што.

Падзялюся цікавымі назіраннямі: аніматары — гэта не зусім акторы. У нас ёсць хлопец, які пачынаў працаваць з намі, потым паступіў на тэатральны факультэт, і ўжо яго заканчвае. Дык вось, як аніматар ён стаў горш працаваць, баіцца публікі. Не ведаю, што там робяць з акторамі ў часе прафесійнай падрыхтоўкі, але выбіваецца з людзей некі складнік. У выніку прафесійныя акторы цягнуць толькі на вядучага — чалавека, які працуе строга па тэксту. На адзін з фестываляў у Івянцы Антаніна Хатэнка запрашала вядомага актора Алега Манаева, яму прапаноўвалі пэўны вобраз прадставіць у натоўпе людзей. І Манаеў адмовіўся! Сказаў: «На сцэне — калі ласка, а так — не»…

***— Вашы акторы выступаюць у цікавых касцюмах, ці дорага абыходзіцца гэты рэквізіт?***

— У прафесіяналізме аніматара ёсць маральны і матэрыяльны складнік. Добрыя касцюмы — гэта вельмі важна, і яны дарагія. Мы робім замовы прафесійным швачкам, рэканструктарам. Простая сукенка ў сярэднявечным стылі каштуе блізу ста долараў, гусарскі касцюм — каля пяцісот, просценькі шляхецкі — дзвесце-трыста долараў. Поўныя латы ўвогуле каштуюць блізу дзвюх тысяч долараў. Спачатку мы вельмі трапятліва ставіліся да касцюмнага пытання. Але потым зразумелі, што гледачу абсалютна не патрэбная дасканалая гістарычная адпаведнасць. У некаторых дзеях у нас увогуле могуць прысутнічаць касцюмы розных эпох. Затое ў гістарычных рэканструкцыях мы імкнёмся не выступаць — там нас засмяюць, бо рэканструктары дбаюць пра кожную дэталь.

***— Ці былі канфлікты з кліентамі?***

— У нас былі выпадкі, калі людзі на карпаратыве крычалі, што не хочуць праграму па-беларуску. Потым яны разыграліся, і прэтэнзіі былі знятыя. Яшчэ быў выпадак, што дырэктар кампаніі, якая звярталася да нашых паслуг, запатрабаваў зняць з праграмы дуду, матывуючы ён гэта тым, што дуда не беларускі, а шатландскі інструмент. Мы знялі дудара і рабілі праграму пад флейту. Калі мы пачыналі працаваць з рускімі турыстамі, то рабілі для іх праграму па-руску. Пачыналі па-беларуску і потым пераходзілі на рускую мову. Але нам крычалі, каб мы працавалі па-беларуску, што яны гатовыя да мовы. І на наступны год мы ўжо рабілі для рускіх беларускамоўную праграму, канешне, з перакладам незнаёмых слоў. Напрыклад, «Становіцеся ўсе ў кола! За Смоленском это круг». І яны ўсе смяяліся, ім падабалася. Цяпер мы рыхтуем спектакль пра Пане Каханку, і нам хацелася б паказаць яго вельмі неадназначна. І патрыётам, і самадурам, і сцэнарыстам. У цэлым у нас цяпер шырокія магчымасці для гледачоў. Можам зрабіць фактычна любую праграму па замове, тое ж «Чыкага», «Назад у СССР», але ўсё абавязкова са сцэнарным планам.

***— Адкуль бяруцца сюжэты для праграм?***

— Сюжэты мы ствараем самі, але многія ідэі запазычваем з гісторыі. Мы імкнёмся, каб не было нічога негістарычнага. Калі персанаж нешта гаворыць, то гэтыя словы не мусяць супярэчыць версіям гісторыкаў. Перш чым зрабіць праграму, я месяцы паўтара чытаю літаратуру, рыхтуюся. У нас ёсць праграма «Экзамен кавалера рэспектовага». Я чытаў кнігу Адама Мальдзіса і там наткнуўся на гэтых кавалераў рэспектовых, а да гэтага пра іх нічога не чуў. І ў выніку мы зрабілі цэлую праграму на гэтую тэму.

***— Вы не баіцеся пераўтварыць гістарычных персанажаў, гістарычныя падзеі ў лубок?***

— Я думаю, хай людзі ведаюць хоць нешта, чым увогуле нічога. Ёсць абрад «Цары», які нават уключаны ў спадчыну Юнэска. Прыехалі гісторыкі-культуролагі, і яны выказалі прэтэнзіі, што гэты абрад ладзяць для турыстаў. Але калі нічога не рабіць, то ніхто і не будзе ведаць, што такое ёсць. Мы імкнёмся не рабіць з персанажаў поўных прыдуркаў. Калі ў нас князь Вітаўт, то ён не будзе піць з гасцямі. З міфалагічнымі персанажамі можна прыдумляць усё што заўгодна, але касцюмы імкнёмся рабіць згодна з апісаннем у літаратуры, надзяляем адпаведным характарам. Я не думаю, што нельга дакранацца да культурнай спадчыны, бо яна разаб'ецца.

***— Які адсотак інтэрактыўнасці мусіць быць у анімацыйных праграмах?***

— Недзе 70 адсоткаў, а ў карпаратыўных праграмах яшчэ больш. Мы метадам спробаў і памылак вызначылі аптымальны перыяд, калі можна трымаць публіку: гэта гадзіна, потым штосьці не паказваў, гэта ўжо не цікава. Якая б колькасць гледачоў ні была, адсоткаў дваццаць не хочуць ні ў чым удзельнічаць. Таму мы і імкнёмся праводзіць конкурсы, гульні, у якіх публіка глядзіць на сваіх жа знаёмых, на тое, як яны паводзяцца ў забаўных, смешных сітуацыях.

***— Ці можна да вас прыйсці працаваць? Напрыклад, чалавек паглядзеў вашу дзею ды і загарэўся стаць аніматарам-акторам.***

— У нас няма свайго памяшкання для рэпетыцый, і я ўладкаваўся весці тэатральны гурток у дзіцячы дом творчасці, каб мець хоць нейкую пляцоўку. Там рэпетуюць нашы акторы, займаюцца тыя, хто прыходзіць непасрэдна ў сам гурток. Пасля многіх выступаў падыходзяць людзі з падобнымі пытаннямі, пішуць да нас на старонку «ВКонтакте». Але ў выніку фактычна ніколі не прыходзяць. Адзін аніматар можа ўтрымаць увагу да пяці да сарака чалавек, часам у нас бываюць замовы на вялікія групы людзей, і таму нашых пастаянных актораў не хапае.



Фота аўтара

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 19 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Адмысловы рэпартаж АТН «Еўразона: грошы на бочку...».
**11.00** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.05** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Тэлефільм «Рэчыцкі край. Сустрэчы і спатканні» цыклу «Зямля беларуская».
**15.40** Цыкл «Дыялогі аб цывілізацыі».
**16.05** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**17.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.10** Зона Х. Крымінальная хроніка .
**19.35** «Калыханка».
**19.50** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.55** Серыял «Вар'яты-3» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Серыял «За ўсё табе дзякую-3» .

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10, 13.10** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.15** Фільм «Чалавек з бульвара Капуцынаў».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.10** Прэм'ера. Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Сёстры». Расія, 2001г.
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа рамонту.
**11.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.35** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.10** Мультфільм.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.25** Жаночая ліга.
**17.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Экстраліга. Плэй-офф. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Жаночая ліга.
**23.05** Авертайм.
**23.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**00.30** Псіхалагічны дэтэктыў «След» (ЗША).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** Праграма «Даведнік».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** Фільм «Мелодыі белай ночы».
**12.20** Дакументальны фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Саюзнікі».
**19.20** Праграма «Усюды жыццё».
**19.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.30** Праграма «Беларусь сёння».
**21.30** Праграма «Свет спорту».
**22.05** Дакументальны фільм «Цюркі Расіі».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».

### Discovery CHANNEL

**08.00, 17.35** Аўтальянцы.
**08.25, 14.50, 03.55** Смяротны ўлоў.
**09.20, 20.00, 06.10** Як гэта ўладкавана?
**09.50, 20.30, 06.40** Як гэта зроблена?
**10.15, 21.00** Сапраўдныя аферысты.
**11.10** Энергія будучыні.
**12.05** Як уладкаваны Сусвет.
**13.00, 18.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**13.55, 19.00, 04.50** Разбуральнікі легенд.
**15.45** Top Gear ЗША.
**16.40, 07.05** Аўтакаралі пустэльні.
**22.00** Залатая ліхаманка: Аляска.
**23.00** Вугаль.
**00.00** Рыба-меч.
**01.00** Фрэдзі Флінтофф супраць усіх.
**02.00** Крушэнне Concordia.
**03.00** Залатая ліхаманка: Аляска.
**05.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**00.30, 13.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Фалун. Жанчыны. 10 км вольным стылем.
**01.00, 01.30, 12.00, 12.45** Біятлон: Кубак свету. Ханты-Мансійск.
**02.00, 03.15** Матаспартыўны часопіс.
**02.15, 22.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Планіца - HS 215.
**10.30** Марафон: Сеул.
**11.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Шладмінг. Слалам-гігант. Жанчыны. 2-я спроба.
**14.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Фалун. 15км вольным стылем. Мужчыны.
**15.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Данія - Шатландыя.
**17.00** Велаunion: Мілан - Сан-Рэма.
**18.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 1-ы этап.
**19.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Германія- Швецыя.
**21.00** Футбол.
**22.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40, 12.15, 18.05** Зона «Свабоды».
**08.10** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**08.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.05, 15.25** «Час гонару», серыял.
**09.50, 16.15** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія: 1 серыя.
**10.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.50, 14.15** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «WZ-аркестрам»: ч. 2.
**11.20** Эксперт.
**11.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**12.45** «Час гонару», серыял.
**13.30** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**13.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**17.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.40** Навігатар.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.35** Вагон.
**18.40** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Дабранач», маст. фільм, 2007 г., ЗША.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар.

## 20 САКАВІКА, АЎТОРАК

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі».
**10.00** Арэна.
**10.25** Культурныя людзі.
**11.00** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Тэлефільм АТН «Валер Галаўко: Саўндтрэк даўжынёю ў жыццё».
**16.20** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі».
**23.00** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсер. фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Прэм'ера. Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Несакрэтныя матэрыялы».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Далёкія сваякі».
**08.55** Фільм «Сёстры». Расія, 2001г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Доказ». ЗША, 2004г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT-3». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны» .
**11.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**12.40** Авертайм.
**13.10** Кінаспробы.
**13.45** Фантастычны баявік «Людзі Ікс-2» (Канада-ЗША).
**16.00** Нянудны глобус.
**16.25** Цела чалавека.
**17.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна) .
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыйны серыял «Заклад» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Жаночая ліга.
**23.00** Трылер «Лепшыя планы» (ЗША).

---

**05.00** Прафілактыка.
**10.05** Мастацкі фільм «Дачная паездка сяржанта Цыбулі».
**11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Дачная паездка сяржанта Цыбулі» (Працяг).
**12.20** Дакументальны фільм « Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Попел «Фенікса»».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**22.05** Дакументальны фільм « Цюркі Расіі».
**23.00** Навіны Садружнасці.
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усюды жыццё».
**03.30** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Дыяспары».

### Discovery CHANNEL

**08.00, 17.35** Аўтальянцы.
**08.25** Смяротны ўлоў.
**09.20** Як гэта ўладкавана?
**09.50** Як гэта зроблена?
**10.15** Сапраўдныя аферысты.
**11.10** Залатая ліхаманка: Аляска.
**12.05** Вугаль.
**13.00** Мужчына, жанчына, прырода.
**13.55** Разбуральнікі легенд.
**14.50** Смяротны ўлоў.
**15.45** Top Gear ЗША.
**16.40** Аўтакаралі пустэльні.
**18.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана?
**20.30** Як гэта зроблена?
**21.00** Сапраўдныя аферысты.
**22.00** Гіганцкія будоўлі.
**23.00** Узнаўленне Японіі.
**00.00** Discovery: Праект «Зямля».
**01.00** Фрэдзі Флінтофф супраць усіх.
**02.00** Сапраўдныя аферысты.
**03.00** Гіганцкія будоўлі.
**03.55** Смяротны ўлоў.
**04.50** Разбуральнікі легенд.
**05.45** Вокамгненныя катастрофы.
**06.10** Як гэта ўладкавана?
**06.40** Як гэта зроблена?
**07.05** Аўтакаралі пустэльні.

### EUROSPORT

**23.00, 23.30** Пра рэстлінг.
**00.30** Конны спорт. Агляд тыдня.
**00.45, 16.15** Біятлон: Кубак свету. Ханты-Мансійск.
**01.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Планіца - HS 215.
**02.30** Марафон: Сеул.
**10.35, 16.45** Футбол.
**11.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 1-ы этап.
**12.30** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Швейцарыя - Германія.
**14.45, 21.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Планіца - HS 215.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 1-ы этап.
**18.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 2-і этап.
**19.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. ЗША - Германія.
**22.00** Снукер: Ірландыя - Фінал.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**09.30** «Мой родны горад», серыял: 32 серыя.
**09.50** Прыватная калекцыя.
**10.25** Еўропа сёння.
**10.50** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**11.15** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**11.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.50** «Ранча», серыял: 40 серыя.
**12.40** «Мой родны горад», серыял: 32 серыя.
**13.05** Еўропа сёння.
**13.35** Вагон.
**13.45** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**14.10** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**14.30** Прыватная калекцыя.
**15.05** «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт.
**18.35** Два на два (тэледыскусія).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр.
**20.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал.
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 12 серыя.
**22.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

## 21 САКАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі» (Расія-Украіна).
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Скрынка перадач.
**11.00** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мастацка-публіцыстычны фільм «Эпоха. Падзеі і людзі» .
**16.10** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» .
**21.00** Панарама.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН «Арабскае цунамі».
**21.55** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі» (Расія-Украіна).
**23.00** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Наша Белараша».
**00.50** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.45** «NEXT-3». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «NEXT-3». Серыял. Закл. серыя.
**00.55** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна).
**11.00** Цела чалавека.
**11.35** Наперад у мінулае.
**12.10** Жаночая ліга.
**12.40** Камедыйны серыял «Заклад» (Расія).
**14.30** Мультфільм.
**14.50** Бухта капітанаў.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Ясі і худзей.
**16.30** Жаночая ліга.
**17.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна) .
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыйны серыял «Заклад» (Расія). Заключныя серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Беларуская часіна.
**22.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Манчэстэр Сіці – Чэлсі. Прамая трансляцыя.
**00.40** Жаночая ліга.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**09.25** Наўруз.
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Без году тыдзень».
**12.20** Дакументальны фільм «Цюркі Расіі».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Попел «Фенікса»».
**20.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05** Наўруз 2012.
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### Discovery CHANNEL

**08.00, 17.35** Аўтальянцы.
**08.25, 14.50, 03.55** Смяротны ўлоў.
**09.20, 20.00, 06.10** Як гэта ўладкавана?
**09.50, 20.30, 06.40** Як гэта зроблена?
**10.15, 21.00, 02.00** Сапраўдныя аферысты.
**11.10** Гіганцкія будоўлі.
**12.05** Узнаўленне Японіі.
**13.00, 18.05** Мужчына, жанчына, прырода.
**13.55** Разбуральнікі легенд.
**15.45** Top Gear ЗША.
**16.40** Аўтакаралі пустэльні.
**19.00, 04.50** Разбуральнікі легенд.
**22.00, 03.00** Выжыць любым коштам.
**23.00** Выжыць разам.
**00.00** Рачныя монстры.
**01.00** Фрэдзі Флінтофф супраць усіх.
**05.45** Вокамгненныя катастрофы.
**07.05** Аўтакаралі пустэльні.

### EUROSPORT

**23.30** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Германія - Італія.
**02.00** Ралі.
**02.30** Аўтагонкі.
**10.30, 15.45** Футбол.
**10.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Планіца - HS 215.
**11.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 2-і этап.
**12.30** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Швецыя - Канада.
**14.45** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/4 фіналу.
**16.00** Снукер: Ірландыя - Фінал.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 2-і этап.
**18.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 3-і этап.
**19.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Швецыя - Кітай.
**21.00** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.05** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**21.10** Гольф: Тур PGA.
**22.10** Гольф: Еўрапейскі тур.
**22.40** Гольф: Гольф Клуб.
**22.45** Усе віды спорту.
**22.50** Ветразевы спорт: Экстрэмальная серыя Аман.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.25** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** На колах.
**09.30** Рэпартэр.
**09.55** Асабісты капітал.
**10.10** Эксперт.
**10.35** Беларусы ў Польшчы.
**10.50** МакраФон: «Рок-карона: запісы 2000–2002 гг.»: ч. 4.
**11.50** «Ранча», серыял: 41 серыя.
**12.40** Euromaxx.
**13.10** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**13.55** Два на два (тэледыскусія).
**14.20** На колах.
**14.50** Рэпартэр.
**15.10** Асабісты капітал.
**15.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.40** Эксперт.
**16.05** Беларусы ў Польшчы.
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.30** Euromaxx.
**17.00** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**17.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.40** «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Казус Бяляцкага», дак. фільм.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Асабісты капітал.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Навігатар.
**20.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Агнём і мячом», серыял: 2 серыя.
**22.35** Два на два (тэледыскусія).
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** Гарачы каментар.

## 22 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі» (Расія-Украіна).
**10.00** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**10.55** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.05** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мастацка-публіцыстычны фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**16.10** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.10** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Вострасюжэтны серыял «Катоўскі» (Расія-Украіна).
**23.00** Драматычны серыял «Вар'яты-3» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыўная меладрама «За ўсё табе дзякую-3» (Украіна).

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Прэм'ера АНТ: «Твая Тэрыторыя».
**00.15** «На ноч гледзячы».
**01.05** Начныя навіны.

---

**07.00** «Званая вячэра».
**07.55** Фільм «Прывітанне і бывай». СССР.
**09.35** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». Расія, 1987 г.
**14.40** Фільм «З каханымі не раставайцеся». СССР, 1979 г.
**16.05** «Аўтапанарама». Святочны выпуск.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.40** «Званая вячэра».
**17.45** Фільм «Вялікая маленькая я». Францыя-Бельгія, 2010 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе». Расія-Украіна, 2009 г.
**21.45** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе 2». Расія, 2010 г.
**23.35** Жывы канцэрт групы «Litesound».
**00.35** «Дыскатэка 80-х».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-3». Серыял. Закл. серыя.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Простая мова».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм «Адзін і без зброі».
**11.05** Мастацкі фільм «Адзін і без зброі» (Працяг).
**12.20** Наўруз 2012.
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Наўруз 2012.
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery CHANNEL

**08.00, 17.35** Аўтальянцы.
**08.25, 14.50, 03.55** Смяротны ўлоў.
**09.20, 20.00, 06.10** Як гэта ўладкавана?
**09.50, 20.30, 06.40** Як гэта зроблена?
**10.15, 21.00** Сапраўдныя аферысты.
**11.10** Рыба-меч.
**12.05, 18.15** Выжыць разам.
**13.00** Мужчына, жанчына, прырода.
**13.55, 19.00, 04.50** Разбуральнікі легенд.
**15.45** Top Gear ЗША.
**16.40, 07.05** Аўтакаралі пустэльні.
**22.00** Хлопцы з гарматамі.
**23.00** Я збег: сапраўдныя ўцёкі з турмы.
**00.00** Амерыканскія банды.
**01.00** Фрэдзі Флінтофф супраць усіх.
**02.00** Сапраўдныя аферысты.
**03.00** Хлопцы з гарматамі.
**05.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**23.20** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**23.25** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**23.45** Усе віды спорту.
**00.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Канада - Германія.
**02.00, 10.45** Алімпійскія гульні: Алімпійскі часопіс.
**02.30, 11.15, 16.15** Футбол.
**02.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 3-і этап.
**10.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**11.30, 17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 3-і этап.
**12.30** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Шатландыя - Швецыя.
**14.45** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/4 фіналу.
**16.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**16.45** Усе віды спорту.
**18.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі - 4-ы этап.
**19.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада. Швецыя - ЗША.
**21.00** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/4 фіналу. 2-я гульня.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Агнём і мячом», серыял: 2 серыя.
**08.25** «Ратаўнікі», серыял: 12 серыя.
**09.15** Асабісты капітал.
**09.30** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**10.00** Праект «Будучыня».
**10.25** Навігатар.
**10.40** «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**11.00** Два на два (тэледыскусія).
**11.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.45** «Казус Бяляцкага», дак. фільм.
**12.15** «Агнём і мячом», серыял: 2 серыя.
**13.10** «Ратаўнікі», серыял: 12 серыя.
**13.55** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**14.20** Праект «Будучыня».
**14.50** Асабісты капітал.
**15.05** Навігатар.
**15.20** «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**15.40** Два на два (тэледыскусія).
**16.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.25** «Казус Бяляцкага», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.35** Басаног па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Край светлых мрояў», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** Форум (ток-шоў).
**22.40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял.
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

## 25 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**1 Беларусь**

**06.50** Камедыя «Больш чым сябар» (ЗША).
**06.15** Камедыйная меладрама «Спячы і прыгажуня» (Украіна).
**07.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.00** Існасць.
**08.25** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.10** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.20** Адмысловы рэпартаж АТН «Арабскае цунамі».
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм.
**15.40** Меладрама «Кур'ер» (СССР).
**17.25** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**18.55** Спартовая камедыя «Нязносныя мядзведзі» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Баявік «Місія невыканальная-2» (ЗША-Германія).
**00.05** Хакей для ўсіх.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** Нядзельны «Ералаш».
**12.55** «Зваротны адлік».
**13.25** Камедыя «Джэнтльмены поспеху».
**15.00** «Яўген Лявонаў. Споведзь».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Валера Лявонцьева.
**17.45** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дзве зоркі».
**22.35** Фільм «Нябачны».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе 2». Расія, 2010 г.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.10** «Вялікі сняданак».
**10.50** Фільм «Гадзіны». ЗША-Вялікабрытанія, 2002 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «Мядовы месяц». СССР, 1956 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Мінулай ноччу ў Нью-Йорку». ЗША-Францыя, 2009 г.
**22.30** «Прафесійны бокс».
**23.25** Фільм «Закахайся ў мяне, калі адважышся». Францыя-Бельгія, 2003 г.

**2 Беларусь**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «Бобі». ЗША, 2006 г.
**13.15** «Добры дзень, доктар».
**13.45** Фільм «Карнавал». СССР, 1981 г. 2-я серыя.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** Чэмпіянат Беларусі па футболе: ФК «Гомель» - ФК «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Рай». ЗША, Германія, Францыя, Вялікабрытанія, Італія, 2002г.
**22.30** Прэм'ера! «Пякельная кухня».
**23.50** Фільм «Я ўсё яшчэ тут». ЗША, 2010г.

**Мир**

**05.00** Дакументальны фільм «Флатаводцы Расіі. XX стагоддзе».
**05.50** Праграма «Смачны свет».
**06.20** Мастацкі фільм «Выхадкі Скапена».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Ведаем рускую».
**10.10** Праграма «Даведнік».
**10.40** Тэлесерыял «Эксперты».
**13.30** Дак. серыял «Доказы віны».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток – шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Мастацкі фільм «У чэрвені 1941-га».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Белы Бім – чорнае вуха».
**00.25** Праграма «Паўночнікі».
**01.00** Мастацкі фільм «Сэм Чэрчыль: У пошуках знікшага чалавека».
**02.50** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**03.35** Мастацкі фільм «Выхадкі Скапена».

**Discovery Channel**

**08.00** Вокамгненныя катастрофы.
**08.55** Лабараторыя выбухных ідэй.
**09.50** Разбуральнікі легенд.
**10.45** Як гэта ўладкавана?
**11.10** Як гэта зроблена?
**11.40** Залатая ліхаманка: Аляска.
**12.35** Вугаль.
**13.30** Выжыць разам.
**14.25** Энергія будучыні.
**15.20** Разбуральнікі легенд.
**16.15** Як уладкаваны Сусвет.
**17.10** Будаўнічая дапамога.
**18.05** Выжыць любым коштам.
**19.00** Брудныя грошы.
**22.00** Сапраўдныя аферысты.
**23.00** Энергія будучыні.
**00.00** Разбуральнікі легенд.
**01.00** Як уладкаваны Сусвет.
**02.00** Фрэдзі Флінтофф супраць усіх.
**03.00** Рачныя монстры.
**03.55** Разбуральнікі легенд.
**04.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**05.45** Як гэта ўладкавана?
**06.10** Discovery: Праект «Зямля».
**07.05** Узнаўленне Японіі.

**Eurosport**

**01.00** Баявыя мастацтвы.
**03.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 6-ы этап.
**09.30** Канькабежны спорт: Чэмпіянат свету. Хеерэнвен - Дзень 3.
**10.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 6-ы этап.
**11.30** Кёрлінг: Чэмпіянат свету. Жанчыны. Канада.
**13.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 6-ы этап.
**14.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Каталоніі – 7-ы этап.
**15.45** Канькабежны спорт: Чэмпіянат свету. Хеерэнвен - Дзень 4.
**16.30** Веласпорт.
**18.00** Канькабежны спорт: Чэмпіянат свету. Хеерэнвен - Дзень 4.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Маямі - 3 раўнд.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 18 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.00** Навігатар.
**09.15** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.35** Форум (ток-шоу).
**11.20** Маю правa (юрыдычная праграма).
**11.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.05** Калыханка для самых маленькіх.
**12.35** «Тэра постсаветыка. Дагестан», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**13.00** «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**13.20** «Піянеры зменаў. Канада», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**14.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.25** «Дзень Волі», дак. фільм, 2008 г. Беларусь.
**14.55** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 8 серыя.
**15.05** «Пасля вас» (Après vous..), маст. фільм, 2003 г., Францыя.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.05** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.30** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** «Далёка нам яшчэ да БНР», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.25** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 8 серыя.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** «Па Транссібе», дак фільм, 2007 г., Германія: 2 серыя.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, 2005 г., Расія.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# У НАЗАРБАЕВА ТАКСАМА ЁСЦЬ СЫН

**Нурсултан Назарбаеў нечакана з'явіўся на публіцы разам з хлопчыкам, якога лічаць яго сынам і нават магчымым пераемнікам.**



У нядзелю, 4 сакавіка, хакейны клуб «Барыс» з Астаны ў рамках Кантынентальнай хакейнай лігі на Кубак Гагарына выйграў з лікам 3:2 другі матч у магнітагорскага «Металурга». Такая падзея не магла не пацешыць казахстанскіх заўзятараў, аднак не перамога клуба стала галоўнай сенсацыяй: на матч нечакана прыехаў прэзідэнт Казахстана з хлопчыкам гадоў сямі-васьмі.

Тое, што гэтае дзіця Нурсултану Назарбаеву не чужое, стала відавочна па паводзінах гаранта: прэзідэнт абдымаў хлопчыка, пазіраваў з ім свайму асабістаму фатографу на фоне гуляючых хакеістаў. Потым то капялюшык папраўляў, то куртачку, то распавядаў штосьці. А пасля фінальнага свістку, узяўшы дзіця за руку, выйшаў са сваёй світай. На думку большасці, гэты малы — сын Нурсултана Абішавіча ад апошняга рамана.

Дасюль вакол таго раману ходзяць шмат супярэчлівых плётак. Нагадаем, што 11 мая 2009 года адзін з самых вядомых палітычных часопісаў Еўропы — нямецкі «Spiegel» — даў слова Рахату Аліеву, былому зяцю Назарбаева. Сярод іншага Аліеў расказаў нямецкім журналістам пра нараджэнне ўвесну 2005 года ў Турцыі сына Назарбаева, якога завуць Султанам. Яго маці — новая жонка Назарбаева Асель, былая міс Казахстан.

Па словах таго ж Аліева, нараджэнне сына ў Назарбаева было часткай спецыяльнай аперацыі — даць прэзідэнту нашчадка па мужчынскай лініі (усе дзеці Назарбаева ад папярэдніх шлюбаў — дзяўчынкі), які мог бы ў 2030 (!) годзе заняць пасаду кіраўніка дзяржавы. Больш таго, з улікам узросту Назарбаева, якому за 70 гадоў, дзіця давялося нараджаць з дапамогай прабіркі. Для гэтага Асель быццам накіравалі ў сакрэтную медычную лабараторыю ў Турцыі. Праўда, адразу ўзнікла правакацыйная чутка, што прабіркі не спатрэбілася. Быццам функцыі сапраўднага бацькі выканаў адзін з калег Асель па шоў-бізнэсу.

Такія спекуляцыі наконт існавання ў Назарбаева сына і абставін яго нараджэння з'явіліся на глебе татальнага маўчання афіцыёзу. Было відавочна, што ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі нейкі час папросту не ведалі, як падаць сенсацыйную навіну. Па-першае, факт яшчэ аднаго шлюбу не вельмі пасуе імідджу кіраўніка дзяржавы. Па-другое, навіна пра сыход Назарбаева са старой сям'і значыла разрыў адносін з першай жонкай, якая мае трох дзяцей. Хоць тыя дзеці і цалкам забяспечаныя, такі ўчынак не вітаецца.

Аднак у выніку Назарбаеў пераступіў праз традыцыю. У ліпені 2010 года стала вядома пра афармленне афіцыйнага разводу. Такім чынам, былая першая лэдзі Сара Алпысаўна перастала быць яго жонкай. Праўда, новая першая лэдзі Асель Ісабаева дасюль на публіцы таксама не з'явілася. Відавочна, што аўдыторыю толькі рыхтуюць да такога «сюрпрызу».

Першым, аднак, было выравшана прадставіць хлопчыка. 1 верасня 2011 года інтэрнэт Казахстана ўзарвала навіна пра тое, што прэзідэнт адвёў свайго сына ў першы клас. Прэс-служба прэзідэнта паведаміла, што Нурсултан Назарбаеў наведаў школу-пансіянат «Хейлібэры Астана», дзе быццам будзе вучыцца яго сын.

Міжнародная школа «Хейлібэры Астана», як сцвярджае інфармацыя з яе сайту, размешчана на ўчастку 12,7 гектара і разлічана на 1000 вучняў. Навучальны план заснаваны на брытанскай праграме, але з улікам казахстанскіх стандартаў адукацыі і патрабаванняў патрыятычнага выхавання. У школе акрамя класічных брытанскіх прадметаў выкладаюцца казахская мова, літаратура, гісторыя і геаграфія Казахстана. Кошт навучання — 25–30 тысяч долараў на год.

Праўда, па інфармацыі казахскай прэсы, Султан спачатку павінен быў пайсці ў школу ў Лондане. Шчаслівы бацька, як сцвярджалася, нават набыў і адрамантаваў раскошны асабняк у брытанскай сталіцы, у якой, быццам, павінна была засяліцца яго новая жонка з нашчадкам. Увогуле, усё ішло добра, але ў апошні момант штосьці не заладзілася.

Пасля візіту ў «Хейлібэры Астана» хаваць пераемніка ўжо не было сэнсу, і прэзідэнт Назарбаеў, падобна, рызыкнуў паказаць малога публіцы. Але чаму менавіта зараз? Казахі гадаюць: няўжо Нурсултан вырашыў ужо сёння пачаць аперацыю «Пераемнік»?

Апошнім часам, асабліва пасля расстрэлаў нафтавікоў у Жанаазене, узніклі чуткі, што другі прэзідэнт у гісторыі краіны можа з'явіцца раней. Называюцца таксама прэтэндэнты ў кандыдаты. Напрыклад, кіраўнік Камітэта нацыянальнай бяспекі (КНБ) і блізкі сябар прэзідэнта — Нуртай Абыкаеў. Або прэм'ер-міністр Карым Масімаў ці кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта — Аслан Мусін. Не выключаюць кандыдатуры любімага зяця прэзідэнта Цімура Кулібаева.

Сцвярджаюць, што галоўным фактарам перагляду каляндарнага плана перадачы ўлады ў Астане стала пазіцыя Расіі, якая незадаволеная адсутнасцю ў Казахстане механізму пераемнасці




ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Без гэтага праект Еўразійскага саюза, у якім важную ролю адыгрывае Казахстан, выглядае дастаткова рызыкоўным.

Быццам Маскву вельмі ўразілі хваляванні ў Жанаазене. Дынаміка падзей вакол страйку нафтавікоў і відавочныя памылкі, зробленыя ў кіраўніцтве, пацвярджаюць тэзіс: палітычны клас Казахстана аказваецца няздольным рэагаваць на запыты грамадства і кіраваць складанай і разнастайнай сацыяльнай сістэмай постсавецкага Казахстана.

Яшчэ адна магчымая прычына пачатку аперацыі «Пераемнік» звязана з тым, што Астана вырашыла наняць былога брытанскага прэм'ера Тоні Блэра на пасаду кіраўніка групы кансультантаў, якія будуць распрацоўваць для Казахстана праграму эканамічных рэформаў. Па некаторых дадзеных, новы дарадца будзе атрымліваць не менш за восем мільёнаў фунтаў стэрлінгаў на год.

Аднак казахскі палітыкум і экспертная супольнасць не вераць у тое, што роля Блэра будзе зводзіцца выключна да функцый эканамічнага кансультанта. Спецыфікі казахскай эканомікі ён не ведае. Затое ў яго вялікі аўтарытэт сярод заходніх палітыкаў, і цалкам магчыма, што мэта яго прыцягнення аказаць уздзеянне на еўрапейскую думку. Гэта версія пра «перазагрузку» рэнамэ Назарбаева дастаткова цікавая, паколькі 12 сакавіка нечакана для ўсіх на волю выпусцілі Наталлю Сакалову — юрыста прафсаюзу нафтавікоў Жанаазена. У маі мінулага года яна атрымала 6 гадоў турмы за «прапаганду сацыяльнага канфлікту». Нечакана яе тэрмін замянілі на тры гады ўмоўнага зняволення.

Адным словам, з'яўленне на публіцы маленькага пераемніка, якое супала з важнымі падзеямі ў палітычным жыцці краіны, успрымаюць як пачатак нейкай маштабнай палітычнай рэформы. Праўда, пакуль мэты аперацыі і функцыі хлопчыка ў гэтай схеме не зразумелыя. Ключавое значэнне тут будуць адыгрываць выбары прэзідэнта 2016 года. Застаецца сказаць, што палітолагі даюць рэжыму Назарбаева 5–6 гадоў. Пасля, з улікам яго ўзросту, ён можа цалкам згубіць разуменне працэсаў і нарабіць памылак.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Выказванні Лукашэнкі могуць перапоўніць чашу трывання еўрапейскіх палітыкаў. Аднак Лукашэнка баіцца эканамічных санкцый, якія можа ўвесці Еўрапейскі саюз, таму што эканоміка Беларусі вельмі залежыць ад сектару нафтаперапрацоўкі. Нядзіўна, што цяпер ён шукае сяброўства расійскага лідара Уладзіміра Пуціна. Лукашэнка адным з першых павіншаваў яго з перамогай на выбарах.

**«Business Times» (ЗША)**

Загнаны ў кут дзеяннямі братэрскай Расіі, апошні дыктатар Еўропы Лукашэнка не знайшоў іншага спосабу нагадаць пра сябе, як пачаць высылку дыпламатаў. Што ж прымушае Лукашэнку так дзейнічаць, калі ў яго асяроддзі кажуць пра завяршэнне крызісу, пра выратаванне, якое прыйшло ад Мытнага саюза? А выратаванне гэта апынулася чарговым блефам. Эканоміка руйнуецца, саюзнікі забіраюць апошнія аб'екты ўласнасці — нафтаперапрацоўчыя заводы, газавую трубу. Ужо пагавораюць пра магчымую прыватызацыю аўтапрадпрыемстваў БелАЗ, МАЗ, металургічнага камбіната... Заканамерна, што ў гэты момант Лукашэнка ўспомніў гісторыю пяцігадовай даўніны, калі Захад за аднаўленне дыялогу, а дакладней, дзеля вызвалення палітвязняў Аляксандра Казуліна, Міхаіла Марыніча і іншых, адкрыў крэдытныя рэсурсы на агульную суму амаль 5 мільярдаў долараў. Чаму б не паспрабаваць і цяпер? Толькі ў разлік закралася памылка: тады Захад пачынаў сваю real politik, а зараз ён (Захад) ад яе адмовіўся.

**«Дзеркало тиждня» (Украіна)**

Фінансавая піраміда Сяргея Маўродзі «МММ–2011» актыўна ўзводзіцца ў Беларусі. З цэнтральным офісам на праспекце Незалежнасці, актыўным прасоўваннем у інтэрнэце і за яго межамі, навучальнымі семінарамі і без якіх-небудзь перашкод з боку ўлад. Ні Камітэт дзяржаўнага кантролю, ні Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі, ні міністэрства па падатках і зборах — ніхто не мае да МММ ніякіх прэтэнзій. Дзіўны для нашых шыротаў лібералізм. Нібы і не Беларусь зусім, а грамадства, пабудаванае на прынцыпе неўмяшання дзяржавы ў справы бізнэсу.

**«Газета.ру» (Расія)**

Лукашэнка ўпэўнены ў камандна-адміністратыўных метадах кіравання як у гарантыі захавання сваёй улады. Тым не менш ён ужо змушаны прадаваць ключавыя прадпрыемствы, на якіх трымаецца прамысловасць краіны. Кар'ера Лукашэнкі будавалася на супярэчнасцях паміж Расіяй і Еўропай, але хутка ў Крэмль вернецца Уладзімір Пуцін, які ведае, што на простыя заўвагі ў парушэнні правоў чалавека з боку ЕС Лукашэнка не рэагуе. У самой Беларусі пасля фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў летась адбыліся змены: папулярнасць Лукашэнкі рэзка звалілася. Раней такога не было. Новы рускі крэдыт выратаваў эканоміку, якая стаяла на краю прорвы. Але становішча застаецца нестабільным, і супярэчнасці ў выглядзе Лукашэнкі як гаранта стабільнасці застаюцца.

**«The Economist» (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. ІСЛАМСКАЯ ВЕБ-СВАХА

У Казахстане назіраецца вялікая цікавасць да сайтаў знаёмстваў для мусульман. Толькі за паўгады ў сеціве з'явіліся два сайты на падобную тэматыку. Апошні — Nikyah.kz — адчыніўся напярэдадні 8-га сакавіка. Па словах аўтараў, ён створаны для таго, каб спрасціць мусульманам спосаб знайсці адзін аднаго. «Мусульмане на вуліцы не знаёмяцца, таму спадарожніка жыцця шукаюць праз сваякоў і знаёмых ці праз такія адмысловыя сайты», — кажуць яны. У дадатак на сайце публікуюцца матэрыялы пра каноны ісламскай сям'і: аб правах і абавязках мужа і жонкі ў шлюбе. Каб зарэгістравацца на сайце, трэба адказаць на шэраг пытанняў пра рэлігію і даць дадатковую інфармацыю пра сябе. Хутчэй за ўсё, Nikyah.kz не апошні такі сайт.

**Паводле казахскай прэсы**

### РАСІЯ. МАНАШКІ ТАКСАМА АБІРАЛІ ПРЭЗІДЭНТА

Манашкі Пакроўскага жаночага манастыра даручылі выбары прэзідэнта «Богу нашаму Ісусу Хрысту». Манашкі вырашылі прыняць удзел у галасаванні ўпершыню за 10 гадоў, але не сталі ставіць у бюлетэнях крыжыкі. Сябры ўчастковай выбарчай камісіі выявілі ў бюлетэнях насупраць імёнаў кандыдатаў надпісы кшталту: «Я, рабыня божая …, давяраю Богу нашаму Ісусу Хрысту абраць годнага кіраўніка дзяржавы». Самае цікавае, што нягледзячы на тое, што бюлетэні былі запоўнены нетрадыцыйным спосабам, яны былі прызнаны сапраўднымі, паколькі волевыяўленне манашак чыталася ў бюлетэнях адназначна. Цяжка сказаць, за каго прагаласаваў Ісус, аднак на гэтым выбарчым участку перамог Пуцін з 79 працэнтамі галасоў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ПАЛІТЫКА НА ЖАНОЧЫХ КУПАЛЬНІКАХ



Нямеччына правыя знайшлі новы плацдарм для атакі на мусульманскую меншасць у краіне. Падставай стала рашэнне аднаго з раённых саветаў Дортмунда дазволіць школьніцам плаваць у мусульманскім плавальным касцюме — так званым Burkini. Вырабляецца такі касцюм з лайкры і адпавядае ўсім патрабаванням шарыяту, паколькі па сваім крoі Burkini закрывае ўсё цела жанчыны за выключэннем ступняў, далоняў і твару. Між тым, на гэты час Burkini быў забаронены для дзяўчынак па ўсёй Германіі з-за таго, што ўяўляе пагрозу гігіене, паколькі шмат хто носіць пад Burkini ніжнюю бялізну. З улікам гэтых нюансаў правая газета «Junge Freiheit» прагназуе хуткі рост сярод школьнікаў Дортмунду хваробаў, выкліканых парушэннем правіл гігіены іх мусульманскімі аднакласніцамі. Парадокс сітуацыі ў тым, што Burkini ў ісламскіх краінах лічыцца адзеннем праеўрапейскай буржуазіі. Мясцовыя клерыкалы называюць фасон вычварэннем і лічаць, што веруючая жанчына павінна купацца або ў паранджы, або без нічога.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. РЫХТУЕЦЦА ШТУРМ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЬ ЦІМАШЭНКА

Дэпутат Вярхоўнай Рады, сябар фракцыі «Блок Юліі Цімашэнка — Бацькаўшчына» Віктар Швец упэўнены ў здольнасці прыхільнікаў былога прэм'ер-міністра Юліі Цімашэнка ўзяць штурмам Качанаўскай выпраўленчую калонію №54 (Харкаў) і вызваліць адтуль Юлію. «Калі прэзідэнт (Віктар Януковіч) апынецца няздольным прыслухацца да меркаванняў украінскай апазіцыі, сваіх грамадзян і найболей магутных сусветных краін, то я ўпэўнены, што рана ці позна людзі прыйдуць да Качанаўскай турмы, разбяруць яе на цаглінкі і самі вынесуць адтуль Юлію (Цімашэнка)... І на гэтым для Януковіча ўсё скончыцца», — сказаў ён. Пры гэтым дэпутат не паведаміў, калі, па яго меркаванні, можа адбыцца штурм. Нагадаем, што 8 сакавіка каля 400 прыхільнікаў БЮТ з усёй Украіны фактычна атачылі сцены калоніі, патрабуючы вызвалення куміра. На майскія святы ў Харкаў плануюць прыйсці яшчэ больш прыхільнікаў былога прэм'ера. Акрамя таго, тут даўно размясціўся сталы намётавы гарадок фанатаў Юліі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



▸ СПЕЦСЛУЖБЫ

# САКРЭТ ГУВЕРА

*Алег НОВІКАЎ*

**Выхад на экраны фільма «Дж. Эдгар» («J. Edgar») пра жыццё заснавальніка ФБР Джона Эдгара Гувера стаў прычынай дэбатаў наконт яго сексуальнай арыентацыі.**



Імя Гувера яшчэ пры жыцці стала сінонімам слова «спецслужба». Вельмі часта агентаў ФБР называлі проста «Gmen», што можна расшыфраваць як «людзі Гувера». Сам Гувер (1895–1972) амаль паўстагоддзя займаў пасаду кіраўніка Федэральнага бюро расследаванняў, якое па сутнасці і стварыў, калі яму было ўсяго 30 гадоў. Пры ім ФБР стала важным актарам амерыканскай унутранай палітыкі. Пасля пашырэння паўнамоцтваў ведамства ў 1933–1934 гадах ФБР удалося адсачыць і знішчыць шэраг вядомых гангстэраў. У 1942 годзе ФБР злавіла дзве групы нямецкіх дыверсантаў, якія высадзіліся на ўзбярэжжа ЗША. Арганізацыя таксама праслаўлялася пераследам камуністычнага асяроддзя ў 1940-я гады.

Прыблізна пасля вайны і да самай смерці за Гуверам замацавалася неафіцыйнае прозвішча самага магутнага чалавека ў ЗША. Гэтаму таксама спрыяла тое, што Гувер вёў сакрэтнае дасье на ўсіх больш-менш вытных палітыкаў, вайскоўцаў і суддзяў. Архівы ён выкарыстоўваў для шантажу сваіх апанентаў, што, дарэчы, напрыканцы жыцця стварыла яму ў грамадстве негатыўны вобраз. Якраз для таго, каб перастрахавацца ад новых гувераў, пасля яго смерці парламент увёў абмежаванне — не больш за 10 гадоў для тых, хто займае пасаду дырэктара ФБР.

Хаця Гувер меў кампрамат на кожнага, супраць яго таксама працаваў чорны піяр. У 1940-я гады ўпершыню з'явіліся чуткі пра тое, што самы магутны чалавек у ЗША мае нетрадыцыйную сэксуальную арыентацыю. Ён цураўся жаночай кампаніі, ніколі не быў жанаты, да 40 гадоў жыў выключна з маці, і галоўнае — падазрона шмат часу праводзіў са сваім намеснікам Клайдам Андэрсанам Толсанам, які таксама не меў раманаў з жанчынамі. Не абышлі працўнікі Гувера ўвагай і абставіны кар'еры Толсана. Дзякуючы пратэкцыі Эдгара, ён здолеў заняць пасаду намесніка, папрацаваўшы ў ФБР толькі 18 месяцаў.

Сёння дзякуючы фільму Клінта Іствуда сэксуальнасць бацькі ФБР, ролю якога, дарэчы, выканаў славуты актор Леанарда дзі Капрыё, зноў у цэнтры ўвагі амерыканскай грамадскасці. Прэса, гісторыкі, псіхіятры падзяліліся на два лагеры. Стаўка гэтага супрацьстаяння дастаткова высокая. Відавочна, што ФБР баіцца іміджу арганізацыі, якую быццам заснаваў гей. Варта згадаць, што яшчэ на папярэднім этапе стварэння фільма Клінт Іствуд меў размову з кіраўніком ФБР, які патрабаваў не асвятляць у стужцы інтымнае жыццё галоўнага героя. Падобнае патрабаванне на адрас Галівуда выставіў і Фонд памяці Гувера.

Рэжысёр нешта наабяцаў, аднак у выніку сваё абяцанне цалкам не вытрымаў. На экране тэма спецыфічных адносін Эдгара і Клайда час ад часу ўздымаецца. Яны трымаюць адзін аднаго за руку і нават спрабуюць пацалавацца. Нарэшце, Эдгар у адным з эпізодаў фільма апранае жаночае адзенне.

Падобны падыход вітае прагрэсіўная грамадскасць, якая нацярпелася ад Гувера ў часы палявання за ведзьмамі. А тое, што Гувер, магчыма, быў геем, яшчэ больш, на яе думку, падрывае аўтарытэт кансерватараў. Як вядома, гомасэксуалісты прыкладна да 1970 года лічыліся не толькі вычварэнцамі, аднак таксама і латэнтнымі камуністамі, паколькі належалі да контркультурнай сцэны, дзе шмат людзей левых поглядаў.

Нарэшце, дыскусія вакол фільма адбываецца на фоне цяперашняй прэзідэнцкай кампаніі, на выніку якой паўплывае пазіцыя кансерватыўнага электарату, які традыцыйна супраць пашырэння правоў сэксуальных меншасцяў.

Усё гэта спрыяе вельмі эмацыйнай ацэнцы фільма і дастаткова кан'юнктурнаму аналізу фактаў біяграфіі былога старшыні ФБР.

Прыхільнікі тэорыі пра гомасэксуаліста Гувера спасылаюцца на шэраг сведчанняў сучаснікаў, якія сталі публічнымі ён адмовіўся працягваць курс. Жонка псіхіятра, які працаваў з пацыентам, пасля смерці мужа прызнавалася, што той паставіў кліенту дыягназ «гомасэксуалізм». Пазней у мэтах бяспекі доктар знішчыў усе запісы, якія вёў у час прыёму.

Да ўсяго гэтага дадаецца цікавая плётка з 1940-х гадоў. У той час ФБР нечакана аслабіла пераслед структур мафіі, што, на думку некаторых, было звязана з кампраметуючымі матэрыяламі, якія бандыты накапалі на Гувера, пра яго сэксуальныя забабоны. Быццам мафіёзі шантажавалі імі кіраўніка ФБР, і той у якасці платы за маўчанне пагадзіўся заплюшчыць вочы на нейкія крымінальныя афёры.

Аргументаў супраць таксама хапае. Гувер, чаму ёсць шмат доказаў, не любіў гомасэксуалістаў у сваім ведамстве, паколькі яны былі, па яго словах, цудоўнымі аб'ектамі шантажу звонку. Ён сам актыўна распальваў гамафобскія кампаніі — напрыклад, запусціў плётку пра няправільную «арыентацыю» Стывенсана, кандыдата на прэзідэнта ад дэмакратаў. Ён жа шантажаваў жонку прэзідэнта Рузвельта Элеанору, перахапіўшы яе эмацыйны ліст да журналісткі Лорэны Хікок.

Не ўсё ясна наконт стаўлення Гувера да жанчын. Ёсць шмат інфармацыі, што ён заляцаўся да адной з акторак, а таксама да маці славутай танцоўшчыцы Джынджар Роджэрс.

**Гувер меў кампрамат на кожнага, але і супраць яго працаваў чорны піяр. У 1940-я гады з'явіліся чуткі пра тое, што самы магутны чалавек у ЗША — магчыма, гей**

дзякуючы працы гісторыкаў. У кнізе «Official and Confidential: The Secret Life of J. Edgar Hoover» аўтара Энтані Самера прыводзіцца фрагмент інтэрв'ю аднаго з сябраў амерыканскай гей-грамады 1940–1950-х гадоў. Па яго словах, ён бачыў Гувера на адной вечарынцы апранутым у ружовую суконку, панчохі, туфлі на абцасах і парык. Больш таго, Эдгар быццам патрабаваў ад гасцей называць яго «Мэры». Ёсць сведчанне аднаго з агентаў ФБР, які неяк па справах зазірнуў на вілу, дзе жылі Клайд і Эдгар. Па яго словах, нехта з іх фарбаваў другому пазногці на нагах.

Ёсць і сведчанні псіхіятраў. Вядома, што ў 1946 годзе Гувер праходзіў псіхалагічнае абследаванне ў аднаго з лекараў Нью-Ёрку. Праз некалькі сеансаў

Рычард Хэк — гісторык, які абараняе ў сваіх кнігах гетэрасэксуальны статус Гувера, аргументуе свой тэзіс дастаткова лагічна: калі Клайд і Эдгар былі «салодкай парачкай», нашто яны адкрыта рабілі гэта перад камерамі?

Цікава, што пішуць выданні сэксуальных меншасцяў наконт фільма. Яны раяць паглядзець «Дж. Эдгар» як гісторыю пакут чалавека, які шукае сваю сапраўдную сэксуальнасць.

Абмежаванасць матэрыялаў не дазваляе даць канчатковы адказ на пытанне, вакол якога цяпер ідуць дэбаты. З гэтага відавочна толькі адно: Гувер, які любіў сакрэты і збіраў іх, змог захаваць таксама свой сакрэт. А гэта ў дадатковы раз сведчыць, што ён быў сапраўдны профі.

ЦІКАВА

# САМАЯ ВЯЛІКАЯ ІНФЛЯЦЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**Днямі Нацбанк Беларусі прадставіў новую купюру наміналам у 200 тысяч рублёў. Цешыць у такой сітуацыі толькі тое, што нашаму «зайчыку» яшчэ вельмі далёка да венгерскага пенгё.**







Менавіта венгерская пасляваенная валюта — пенгё — паставіла рэкорд у сучаснай гісторыі інфляцый. Яе кульмінацыя была зафіксаваная 1 ліпеня 1946 года, калі курс пенгё да долара дасягнуў узроўню 460 000 000 000 000 000 000 000 000 000 ($4{,}6 \times 10^{29}$).

Самае цікавае, што раней пенгё быў дастаткова стабільнай грашовай адзінкай. Яго ўвялі ў 1925 годзе замест старых венгерскіх крон. Дарэчы, назва «пенгё» (pengo) утварылася ад венгерскага слова, якое можна перавесці на беларускую мову як «дзынь» (гук манет, калі іх ударыць адна аб адну). Цікавая дэталь — большасць надпісаў на купюрах пенгё былі прадубляваныя на мовах нацыянальных меншасцяў, якія жылі ў той час у Венгрыі: нямецкай, славацкай, сербскай, румынскай. Хаця не выключана, што гэта быў прапагандысцкі жэст. Як вядома, Венгрыя вельмі балюча перажыла наступствы Версалю, калі ад яе адрэзалі большую частку тэрыторый, што ўваходзілі ў землі Венгерскай Кароны ў складзе Аўстра-Венгрыі.

На 1925 год грашовая сістэма Венгрыі ўяўляла сабой поўны хаос. Акрамя венгерскіх крон, якія друкаваліся з 1919 года, тут хадзілі старыя аўстра-венгерскія кроны са штампам «Венгрыя». Пры жаданні можна было расплаціцца і грашыма, якія друкавалі камуністы ў час Венгерскай камуны 1919 года. Аднак урад хутка навёў парадак на валютным рынку, паколькі дзякуючы падтрымцы краін Антанты меў дастатковы залаты запас. Новыя пенгё мянялі па курсу 12 500 старых крон. Долар ЗША ў 1925 годзе быў роўны 5,7 пенгё.

Для сярэдне развітай аграрнай краіны, якой была Венгрыя паміж дзвюма сусветнымі войнамі, яе фінансы былі вельмі добрыя, аб чым сведчыць і курс пенгё. Так, на пачатку 1938 года курс долара складаў 5,4 пенгё. Як ні парадаксальна, вайна не пагоршыла сітуацыю ў грашовай сферы. Паколькі тагачасны венгерскі рэжым адмірала Хорці быў саюзнікам Германіі, давер да пенгё захоўваўся на працягу першай паловы вайны, калі гітлераўцы трыумфальна крочылі па Еўропе. Упісалася Венгрыя і ў нацысцкую мадэль еўрапейскай эканомікі. Тут знаходзіліся самыя ўлюблёныя курорты немцаў. Венгрыя стала нямецкім Галівудам. На гэтым фоне пенгё толькі рос. Так, у сакавіку 1941 года за адзін долар давалі 5 пенгё.

Аднак па ходу перамог антыгітлераўскай кааліцыі эканоміка Трэцяга рэйху пачала дэградаваць. А за ёй і эканоміка яе венгерскага сатэліта — у чэрвені 1944-га адзін долар можна было набыць ужо за 33 пенгё. Ну а калі да Будапешта падышла Чырвоная Армія, стаў відавочны крах рэжыму Хорці і яго фінансава-эканамічных інстытутаў. Цікава, што ў гэтым плане харцісты змагаліся да апошняга. Нягледзячы на тое, што Будапешт быў заняты Саветамі, яны ўпарта друкавалі грошы ў адным з гарадоў, які застаўся пад іх кантролем. Пасля заканчэння вайны, на 31 жніўня 1945 года, курс долара ЗША да пенгё складаў 1320.

Тую ж інфляцыйную палітыку працягнулі новыя ўлады. Да канца кастрычніка 1945 года пенгё абясцэніўся да 8 200, а да канца года — да 128 тысяч за долар.

І вось тут адбываецца самае цікавае. Звычайна, такія тэмпы інфляцыі вельмі хутка прыводзяць да поўнага калапсу грашовага звароту ў краіне. Бізнэс замірае, а насельніцтва пераходзіць на натуральны абмен і разлікі ў замежнай валюце. Але венгры ў тыя гады выявілі зайздросную ўпартасць і працягнулі друкаваць нічым не забяспечаныя грошы настолькі доўга, наколькі гэта было магчыма.

Праўда, паралельна нешта ўсё ж рабілася. Так, са студзеня 1946 года ў мэтах стабілізацыі сітуацыі была ўведзена эрзац-валютная адзінка «адопенгё» (гэта значыць «падатковы пенгё»). Адопенгё першапачаткова прыраўноўваўся да пенгё, але выкарыстоўваўся толькі ў якасці больш стабільнай банкаўскай адзінкі разліку.

Рэформа быццам спрацавала. Нечакана пачалася доўгачаканая стабілізацыя. Адопенгё спачатку рос да долара. Праз 3 месяцы, напрыканцы сакавіка, долар ацэньваўся да 1 750 000 пенгё, або прыкладна да 40 000 адопенгё, — гэта значыць адопенгё з пачатку года вырас прыкладна ўтрая.

Аднак у красавіку адбыўся фенаменальны абвал нацыянальнай валюты. Ужо 1 мая долар каштаваў 59 мільярдаў пенгё, ці 94 мільёна адопенгё. У канцы мая купюра ў 1 мільярд пенгё каштавала 2,4 цэнта ЗША.

25 красавіка 1946 года ў абарот уводзіцца новая грашовая адзінка «міліпенгё», якая азначае мільён пенгё. Аднačасова друкуюцца купюры ў 10 і 100 тысяч мільёнаў пенгё. Эфект аказаўся разавым. Ужо на пачатку чэрвеня нацыянальны банк эмітуе банкноты ў 1 і 10 мільёнаў м-pengo, а праз усяго дзесяць дзён на руках у людзей ужо з'яўляюцца купюры з 100 і 1000 мільёнаў м-pengo. Для прыстойнасці іх завуць біліпенгё (b-pengo).

На пачатку лета 1946 года інфляцыя цалкам выйшла з-пад кантролю. На гэты час яна дасягнула прыкладна 400% у суткі, гэта значыць кошты штодня раслі ў 5 разоў, і купюры, адпаведна, абясцэньваліся аўтаматычна. Ілюстрацыяй эпохі стаў славуты фотакадр, на якім дворнік вымятае з тратуараў Будапешту кіпы старых нікому не патрэбных пенгё малога наміналу. Канец эры пенгё адзначыўся самым высокім узроўнем інфляцыі за ўсю гісторыю — у ліпені 1946 годзе была ўведзена штучная адзінка, роўная двум трыльёнам пенгё.

Венгерскую гіперінфляцыю атрымалася спыніць толькі праз месяц. 1 жніўня 1946 года была надрукавана новая грашовая адзінка — форынт, курс абмену пенгё да якога склаў $4 \times 10^{29}$, што таксама з'явілася абсалютным рэкордам да ўсіх грашовых сістэм свету.

Застаецца дадаць, што менавіта на лозунгах барацьбы і перамогі над інфляцыяй да ўлады ў Венгрыі прыйшла Венгерская сацыялістычная партыя. Яна з'явілася ініцыятарам правядзення грашовай рэформы, і поспех форынта быў скарыстаны для мэтаў палітычнай прапаганды, якая ў 1948–1949 гадах садзейнічала поўнаму захопу ўлады ў краіне.

Вось так закончылася незвычайная гісторыя венгерскай валюты, якая сведчыць, што ў нашага Нацбанку яшчэ ёсць куды рухацца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ВАЛЕРЫ ТРЫРВЕЙЕ



Жонка Франсуа Аланда, кандыдата ў прэзідэнты Францыі ад Партыі сацыялістаў, падключалася да выбарчай кампаніі мужа, разумеючы, што фігура патэнцыйнай першай лэдзі адыгрывае вялікую ролю ў іміджы кандыдата на пасаду прэзідэнта. Праўда, для таго, каб заявіць пра сябе, Валеры трэба зацямніць Карлу Бруні, жонку Нікаля Сарказі — прэзідэнта краіны і галоўнага канкурэнта Аланда. Зрабіць гэта будзе вельмі цяжка, паколькі Карла Бруні, якой, дарэчы, 44 гады, прафесійная спявачка і ведае, як падаць сябе публіцы. Валеры, між тым, зрабіла сабе кар'еру як тэлевізійная вядучая палітычных праграм. Пэўны цень на яе фігуру кідае той факт, што ў яе няма афіцыйнага шлюбу з Франсуа. Яны жывуць у грамадзянскім шлюбе. Раней Валеры была два разы замужам і мае ад папярэдніх шлюбаў трох дзяцей. Тым не менш яна збіраецца ўсур'ёз пазмагацца з мадам Бруні. У яе імідж звычайнага сямейнага чалавека, што можа больш спадабацца французам. Таксама Валеры вядомая як вельмі валявая асоба: яна дабілася ад свайго Франсуа, каб ён схуднеў на 10 кілаграмаў.

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ



epa

Прэзідэнт Туркменістана атрымаў манументальнае ўвасабленне сваёй постаці. Справа ў тым, што туркменскаму гаранту адкрылы першы помнік. Помнік уяўляе сабой прэзідэнта, які сядзіць на кані. На галаве палітыка народны галаўны ўбор. Скульптура пакуль знаходзіцца ў музеі мастацтва ў Ашхабадзе. Цяпер усе гадаюць, ці будзе гэты помнік апошнім пры жыцці Гурбангулы? Раней, пры Ніязаве, рабіць скульптуры прэзідэнта лічылася прыкметай павагі да кіраўніка дзяржавы. Так, за гады яго кіравання ў Туркменістане былі ўсталяваны дзясяткі бюстаў. Пікам манументальнай творчасці ў гэтай галіне стала 12-мятровая пазалочаная статуя Ніязава, якая круцілася ў розныя бакі ў залежнасці ад часу сутак. Пасля смерці Ніязава культ яго асобы пайшоў на спад. Аднак у апошні час у палітыцы Бердымухамедава назіраецца адкат да «стылю» Ніязава: перайменаванне грамадскіх месцаў у гонар сваякоў, выпуск уласных кніг і пазіцыянаванне сябе як «Аркадага», што азначае «абаронца». У гэтым плане з'яўленне першай скульптуры прэзідэнта варта было чакаць.

### УДА ФОЙГТ

Адзін з лідараў вядучай правай экстрэмісцкай Нацыянал-дэмакратычнай партыі (NPD) стаў персонай нон-грата ў нямецкіх гатэлях пасля таго, як прайграў у Канстытуцыйным судзе ФРГ незвычайную справу. Усё пачалося ў 2009 годзе, калі Уда, які на той час быў лідарам NPD, забраніраваў нумар у гатэлі «Bad Saarow» у адным з гарадоў зямлі Брандэнбург. Адміністрацыя гатэлю спачатку прыняла замову, аднак пасля госцю адмовіла ў засяленні праз «палітычныя погляды». Фойгт так проста справу не пакінуў і падаў на дырэкцыю «Bad Saarow» у суд. Справа дайшла да самай высокай інстанцыі — Канстытуцыйнага суда. Па словах пазоўніка, кожны пастаялец мае права на свабоду думкі. Кіраўніцтва гатэлю, у сваю чаргу, кажа, што гарантуе сваім гасцям поўны камфорт, які мог быць парушаны прысутнасцю неанацыста. У выніку пасяджэння Феміда прыйшла да заключэння, што гатэлі сапраўды маюць права не засяляць гасцей па палітычных забабонах. Фойгт ужо назваў такі вердыкт «апартэідам». Між тым, губернатар зямлі Брандэнбург назваў учынак кіраўніцтва гатэлю «грамадзянскім актам».



ЦІКАВА

# БЕЛАРУСЫ Ў ВОЙСКУ ПОЛЬСКІМ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Пік напружанасці ў польска-нямецкіх адносінах прыйшоўся на 1939 год. Ніхто ў Польшчы ўжо не сумняваўся, што вайны не пазбегнуць. У сакавіку ў краіне пачаліся скрытыя мабілізацыйныя мерапрыемствы, у выніку якіх у польскую армію была прызвана значная колькасць заходніх беларусаў.**



Віктар Амельянюк з жонкай



Уручэнне сцягу 84-му палесскаму пяхотнаму палку ў Слоніме. На сцягу відаць выяву Пагоні, 1936 г.

Пасля ўсеагульнай мабілізацыі, якая была праведзена ў канцы жніўня 1939 года, у шэрагі Войска Польскага былі прызваны каля 70 тысяч салдат беларускай нацыянальнасці. Мабілізацыйныя цэнтры на тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзіліся ў Гродна (штаб карпуснай акругі DOK III) і Брэсце над Бугам (штаб акругі DOK IX).

Рэзервісты з тэрыторыі Гродзеншчыны і Віленшчыны папоўнілі шэрагі 1-й, 19-й, 22-й пяхотных дывізій. У 20-ю пяхотную дывізію патрапілі жыхары Баранавіцкага, Слонімскага, Пружанскага, Стаўбцоўскага і іншых паветаў. У 30-ю пяхотную дывізію набіралі «рэкрутаў» з Піншчыны, Кобрыншчыны, Брэстчыны, Лунінеччыны, Століншчыны. У Навагрудскую кавалерыйскую брыгаду патрапілі жыхары Ваўкавыскага, Пружанскага, Баранавіцкага, Нясвіжскага паветаў.

Значная колькасць беларусаў апынулася ў 79-м пяхотным палку імя Льва Сапегі, 80-м палку навагрдскіх стралкоў (абодва да вайны былі раскватараваны ў Слоніме) і 78-м пяхотным палку з Баранавіч. Усе гэтыя палкі ўваходзілі ў склад 20-й дывізіі пяхоты Войска Польскага. Гэтую вайсковую адзінку неафіцыйна называлі «беларускай».

Нягледзячы на актыўную дзейнасць у перадваенныя гады камуністычных агітатараў, большасць жыхароў Заходняй Беларусі не спрабавалі пазбегнуць мабілізацыі, а самі запісваліся ў шэрагі польскай арміі. Вось што адзначалася ў справаздачы аб мабілізацыі ў 9-й корпуснай акрузе: «Мясцовае насельніцтва — «палешукі» — пазітыўна ўспрымала распараджэнне ўладаў. Пасля атрымання мабілізацыйных карт рэзервісты з пачуццем годнасці накіроўваліся на месца дыслакацыі сваіх вайсковых падраздзяленняў».



Леанід Коласаў



Васіль Жалткевіч (у цэнтры), радавы 30- га палка лёгкай артылерыі, абараняўшай Брэсцкую крэпасць у верасні 1939 г.

Прывядзем гісторыі некаторых заходніх беларусаў, якія сустрэлі Другую сусветную вайну ў шэрагах Войска Польскага. Адным з тых, хто ў тыя дні атрымаў павестку, быў падпаручнік рэзерву беларус Віктар Амельянюк. У 1922 годзе кабрынчаніна прызываюць у Войска Польскае і залічаюць у 78-м пяхотны полк у Баранавічах. Добра адукаваны, валодаючы некалькімі еўрапейскімі мовамі (у тым ліку польскай, нямецкай і французскай), Амельянюк з поспехам заканчвае школу падхарунжых. Яму прысвойваюць званне капрала. Пасля праходжання ваеннай службы і залічэння ў запас ён працаваў у пажарнай ахове, а потым уладкаваўся памочнікам ваяводскага інспектара таварыства ўзаемнага страхавання ў Брэсце.

У «Штодзённіку афіцэрскага рэзерву Войска Польскага» за 1934 год пазначаецца, што 1 студзеня 1930 года Віктару Амельянюку было прысвоена афіцэрскае званне падпаручніка рэзерву. У яго асабістай справе запісана, што Амельянюк з'яўляўся ўзорным афіцэрам, выдатна валодаў тактыкай вядзення бою, быў ініцыятыўным і энергічным. Праўда, штабны служачы, які пісаў атэстацыю, зрабіў невялікую паметку: цяжка прадбачыць пазіцыю Амельянюка ў выпадку вайны з СССР. У войску міжваеннай Польшчы насцярожана ставіліся да выхадцаў з «усходніх крэсаў», тым больш у афіцэрскім складзе. Віктар Амельянюк быў праваслаўным беларусам, і гэта акалічнасць накладвала адбітак на яго вайсковую службу.

У сакавіку 1939 года Віктара Аляксандравіча накіравалі на службу ў 82-й Сібірскі пяхотны полк Войска Польскага імя Касцюшкі, які размяшчаўся ў Брэсцкай крэпасці. Амельянюк прыняў актыўны ўдзел у абароне крэпасці ў верасні 1939-га. Нагадаю, германскі 19-ы матарызаваны корпус пад камандаваннем Хайнца Гудэрыяна на працягу некалькіх дзён беспаспяхова спрабаваў штурмам авалодаць цытадэллю на Бугу. Паводле дадзеных гісторыкаў, гарнізон крэпасці амаль на палову складаўся з выхадцаў з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Блізкасць родных хат і жаданне абараніць іх ад ворага прымушала людзей ахвяраваць самым дарагім — сваім жыццём.

У ноч з 16 на 17 верасня 1939 года камандаванне гарнізонам Брэсцкай крэпасці прымае рашэнне прарывацца з акружанай цытадэлі. Сярод тых, хто пакінуў крэпасць, быў і падпаручнік Віктар Амельянюк. З прарваўшыхся польскіх частак была сфарміравана вайсковая групоўка «Брэст», якая праславілася ў баях з вермахтам на Любліншчыне. Асабліва моцныя баі былі за горад Янаў Любельскі, які знаходзіўся ў руках немцаў. У 20-х днях верасня 1939 года падраздзяленне з Брэста ажыццявіла паспяховы наступ у напрамку гэтага невялікага гарадка. Польскія ўланы і пяхота імклівым ударам выбілі захопнікаў з Янава. У адным з гэтых баёў Віктар Амельянюк быў забіты. Магіла беларускага афіцэра Войска Польскага захавалася да нашых дзён. Кожны год там з'яўляюцца свежыя кветкі.

У 1938 годзе ў польскую армію быў прызваны беларус Васіль Жалткевіч. Перад самай вайной яго 30-ы полк лёгкай артылерыі быў перакінуты з Брэсцкай крэпасці ў заходнюю Польшчу. Васіль Ануфрыевіч удзельнічаў у абароне крэпасці Модлін, а пасля яе капітуляцыі апынуўся ў нямецкім палоне і быў вызвалены амерыканцамі ў 1945 годзе. Другі наш суайчыннік Леанід Коласаў з Лунінца ўдзельнічаў у абароне Львова. У выніку «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі разам з іншымі абаронцамі заходнеўкраінскага горада Коласаў апынуўся ў савецкім палоне і пасля быў вызвалены.

Беларусам давялося паўдзельнічаць у розных бітвах верасноўскай кампаніі 1939 года. Акрамя ўзгаданай абароны Брэсцкай крэпасці, іншай, не менш знакамітай бітвай была абарона Млаўскага ўмацаванага раёну войскамі 20-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага. Вось як тыя баі апісваў адзін з удзельнікаў, капітан Станіслаў Трушкоўскі: «Перад шашой, да якой падыходзіла рота, было сапраўднае месіва, бязлітасны бой. Скрыгаталі штыкі. Чуліся глухія выбухі гранат, якія кідаліся ў людскія натоўпы, удары прыкладаў аб каскі, крыкі: «Братцы, біце гэтых сукіных сыноў». Гэта беларусы ўступалі ў бой. Немцы пачалі ўцякаць, некаторыя падымалі рукі ўгару». Пад Млавай нашы суайчыннікі коштам уласнага жыцця не далі немцам сходу правравацца да Варшавы.

Гераічна змагаліся байцы 84-га палескага пяхотнага палка ў бітве пад Мокрай. У складзе 2-га Гдынскага батальёна марской пяхоты беларусы ўдзельнічалі ў абароне паўвострава Хель. Многія ўраджэнцы Заходняй Беларусі змагаліся ў акружанай нацыстамі Варшаве. Да кастрычніка 1939 года супраць вермахту, а пазней і Чырвонай Арміі аказвала спецыяльная аператыўная група «Палессе» — зводнае вайсковае фарміраванне пад камандаваннем генерала Францішка Клеберга, у складзе якога ваявала шмат праваслаўных «палешукоў».

Пасля пачатку «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года супраціў польскай арміі стаў бессэнсоўным. Неўзабаве быў аддадзены загад аб эвакуацыі ў Румынію. Падчас верасноўскай кампаніі многія беларускія байкоўцы польскай арміі апынуліся ў нямецкім палоне. Нямала нашых суайчыннікаў трапіла і ў савецкі палон. Радавых, часцей за ўсё, адпускалі. А вось афіцэраў адпраўлялі ў спецыяльныя лагеры. Вялікая колькасць ураджэнцаў Заходняй Беларусі, якія апранулі ў 1939 годзе польскія афіцэрскія мундзіры, будуць расстраляны НКУС.

Гісторыя нашых суайчыннікаў, якія ваявалі ў верасні 1939-га ў складзе польскага войска супраць гітлераўцаў, заслугоўвае больш паважлівых адносін. Тады, 1 верасня 1939 года, беларусы разам з палякамі першымі ў Еўропе сказалі «не» Гітлеру. Менавіта яны ў 1939 годзе зрабілі першы крок да перамогі над нацысцкай Германіяй.




Помнік у Брэсцкай крэпасці

ДАТА

# ТКАЧОЎ МОГ АБ'ЯДНАЦЬ ВАКОЛ СЯБЕ НАЦЫЮ

Марат ГАРАВЫ

**Гісторык, педагог, палітык і энцыклапедыст Міхась Ткачоў мог аб'яднаць вакол сябе нацыю, заявіў у каментары «Новаму часу» яго сябра, гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, старшыня ТБМ Алег Трусаў. 10 сакавіка Ткачову споўнілася б 70 гадоў.**



Міхась Ткачоў. Мітынг у Мінску, пачатак 1990-х

Доктар гістарычных навук прафесар Ткачоў, які ўмеў ствараць, а не разбураць, мог быць вельмі добрым кандыдатам у прэзідэнты і дзеля Беларусі аб'яднаць людзей розных поглядаў і інтарэсаў. «Для гэтага ў яго было ўсё — моцная харызма, абаяльная знешнасць высокага і дужага чалавека, прыемны голас і ўсмешка, аратарскія здольнасці цудоўнага прамоўцы з гумарам, які мог з дапамогай жарту ў момант памяняць сітуацыю на сваю карысць. Але самае галоўнае — ён доўга не трымаў крыўды на чалавека, і нават калі яго самога крыўдзілі, што было не раз, мог першы дараваць і падаць руку. А такіх людзей вельмі мала», — падкрэсліў Трусаў.

Гэта аб'яднальная моц Ткачова асабліва праявілася пасля яго пахавання, калі сябры-навукоўцы выдалі кнігу яго публіцыстыкі «Паходня», дзе выступілі ўсе — ад Зянона Пазняка да Станіслава Шушкевіча, ад Васіля Быкава да мітрапаліта Філарэта. «Ткачова ўсе вельмі паважалі і пахавалі на Маскоўскіх могілках. А паколькі сям'я нябожчыка была бедная, мы збіралі грошы яму на помнік. Я быў вельмі здзіўлены, калі каля сотні дэпутатаў Вярхоўнага Савета XII склікання — ад франтоўцаў да камуністаў — спрычыніліся да гэтай высакароднай справы. Дарэчы, скульптар Алесь Шатэрнік зрабіў добры помнік на магіле Ткачова ў выглядзе бел-чырвона-белага сцягу. На яго цэнтральнай частцы — барэльефы навукоўца і Мірскага замку, які ён даследаваў», — сказаў Трусаў.

Годна ўшанавана і памяць пра Ткачова — яму адкрыты мемарыяльныя дошкі на школе, дзе ён вучыўся ў горадзе Мсціславе Магілёўскай вобласці, і на доме, дзе жыў у Гродне больш за 10 гадоў. «Акрамя таго, у Мсціславе з'явілася вуліца імя Міхася Ткачова. ТБМ выдала кішэнны і насценны календары, прысвечаныя памяці вучонага. Дарэчы, у Гродне, дзе ў мясцовым універсітэце імя Янкі Купалы Ткачоў стварыў кафедру археалогіі, працуюць шмат яго вучняў, у тым ліку доктар гістарычных навук Сяргей Піваварчык і кандыдат гістарычных навук Генадзь Семянчук, а ягоны вучань кандыдат гістарычных навук Андрэй Мяцельскі працуе ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У Гродзенскім універсітэце дзейнічае археалагічны музей, створаны Ткачовым. Добра, каб яшчэ ў яго гонар вуліца была ў Гродне», — сказаў Трусаў. Ён выказаў пажаданне, каб гродзенская інтэлігенцыя зрабіла гэта. «Але самым галоўным помнікам навукоўцу з'яўляюцца яго кнігі. Дарэчы, яго кніга «Замкі Беларусі» вытрымала ўжо каля дзесяці выданняў на беларускай і рускай мовах», — адзначыў Трусаў.

Ткачоў зрабіў неацэнны ўнёсак у айчынную гістарыяграфію, бо з'яўляецца заснавальнікам познесярэднявечнай беларускай археалогіі, які ўпершыню сфармаваў тэзіс: «Беларусь — краіна замкаў». «Нездарма на дзяржаўным узроўні нядаўна прынята праграма «Замкі Беларусі». Раней гэтую тэму ніхто не вывучаў, бо лічылася, што ўсе замкі на тэрыторыі краіны належалі польскім ці літоўскім феадалам. І гэтыя цудоўныя абарончыя збудаванні разбураліся і знаходзіліся ў занядбаным стане. Прычым Ткачоў вывучаў айчынныя замкі ў большай ступені як гісторык, чым як археолаг, бо гадамі сядзеў у архівах Савецкага Саюза, а потым правяраў свае высновы раскопкамі, палову якіх з-за недахопу дзяржаўнага фінансавання зрабіў сваімі рукамі. Такім чынам, закладваючы асобныя шурфы, ён даследаваў каля 20 замкаў. А калі мы аб'ядналі свае намаганні, дык зрабілі вялікія раскопкі на Крэўскім замку, на Старым замку ў Гродне, а таксама на Мсціслаўскім замку. Дарэчы, вынікам апошніх даследаванняў стала наша сумесная кніжка «Старажытны Мсціслаў», — распавёў Трусаў.

Паводле яго слоў, як педагог Ткачоў быў вельмі здольным прафесарам, бо ў яго была ідэальная памяць, а свае лекцыі ён заўсёды ўпрыгожваў жартамі. «У Гродне яго любілі і як добрага экскурсавода і краязнаўцу, які стварыў у горадзе гісторыка-культурны клуб «Паходня». Як яго ні цкавалі мясцовыя ўлады, ён перамог чыноўніцтва і прыехаў у Мінск пераможцам. А тут з маёй падтрымкі, бо я тады быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання, Ткачоў прыйшоў у выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», дзе спачатку працаваў загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі, а затым галоўным рэдактарам выдавецтва. Менавіта дзякуючы нашым высілкам з'явілася шасцітомная «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» і — упершыню на тэрыторыі Усходняй Еўропы — энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі», а таксама ажыццявілася шматгадовая ідэя доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса па выданні шасцітомнай энцыклапедыі «Беларускія пісьменнікі», — сказаў Трусаў.

**Алесь Шатэрнік зрабіў помнік на магіле Ткачова ў выглядзе бел-чырвона-белага сцягу. На яго цэнтральнай частцы — барэльефы навукоўца і Мірскага замку, які ён даследаваў**



Навагрудскі замак. Рэканструкцыя Яўгена Куліка па матэрыялах Міхася Ткачова

Трусаў згадаў, што ў палітыку Ткачоў прыйшоў праз сваіх сяброў па акадэміі — Міхася Чарняўскага і Зянона Пазняка. «А дзякуючы Ткачову я і сам прыйшоў у палітыку падчас стварэння «Мартыралогу Беларусі» і аргкамітэта БНФ «Адраджэньне». Тады мы разам трапілі ў аргкамітэт БНФ, а Ткачоў нават стаў намеснікам Зянона Пазняка. А потым мы разам з Ткачовым стварылі Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. Прычым Ткачоў быў яе старшынёй, а я — яго першым намеснікам. У 1995 годзе нашая фракцыя грамадоўцаў у парламенце налічвала 15 дэпутатаў», — сказаў Трусаў.

Ткачоў актыўна вяртаў беларусам іх нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», вельмі добра папулярызаваў іх гісторыю ў рэспубліканскіх газетах, спрабаваў сябе ў мастацкай літаратуры, а апошні свой выступ прамовіў на прысязе афіцэраў Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Міхась Ткачоў нарадзіўся 10 сакавіка 1942 года ў Мсціславе ў сям'і нашчадка старадаўняга шляхецкага роду Дамінікі Казлоўскай і настаўніка рускай мовы і літаратуры Аляксандра Ткачова, які загінуў пад Ленінградам у 1942 годзе. Памёр навукоўца 31 кастрычніка 1992 года.

КНІГАРНЯ

# «ВЯНОК БЕЛАРУСКІ» ПАЧНЕЦЦА З БАРАДУЛІНА

**Напачатку Года кнігі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» разам з выдавецтвам «Юніпак» вырашылі заснаваць новую літаратурную падсерыю «Вянок беларускі», пачне якую паэтычны зборнік выбраных вершаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.**

«Як беларус я даўно адчуваю няёмкасць: чаму не маю на сваіх кніжных паліцах «выбранага з выбранага» нашага геніяльнага паэта і сучасніка Рыгора Барадуліна? — распавядае аўтар ідэі Валер Дубоўскі. — Чаму і тыя беларусы, для каго роднае слова, беларуская мова — існыя праявы нацыянальнага характару, таксама гэтага не маюць? Невялікага па фармаце і ёмістага па энергетыцы тома, які ў сённяшнім шпаркім, на злом галавы, часе можна разгарнуць на любой старонцы і атрымаць натхненне, заспакаенне, вялікае духоўнае свята, эстэтычную асалоду, інтэлектуальную спатолю. Нагбом глынуць народнай дасціпнасці і элітарнай паэтычнай філасофіі, якую спасцігаць і спасцігаць. Чаму, пытаю сябе, ты, выдавец, не выдаў, не распачаў нешта падобнае? Скажам, серыю «Вянок беларускі». Пасля станоўчага рашэння сумневу не было: пачынаць трэба з Барадуліна, якога лічу першым сярод першых».

Па меркаванні Дубоўскага, сто гадоў, што мінулі пасля вялікага пачатку, — Купалы, Коласа, Багдановіча — наканавалі менавіта Рыгору Барадуліну ўзняць беларускае мастацкае слова на вышэйшы ўзровень, і не толькі ў межах краіны. Божы дар паэта, яго чалавечыя якасці, шырокая, і не толькі філалагічная, адукаванасць дазволілі яму зрабіць гэта.

У першую кнігу «Вянку беларускага» ўвойдуць каля 100 вершаў (магчыма, і не толькі вершаў) народнага паэта. Гэта будуць найбольш знакамітыя, лепшыя творы з агромністай скарбніцы мудраслоўя дзядзькі Рыгора.

Дарэчы, мэта зрабіць выданне сцiслым і затрымала яго падрыхтоўку да друку. Вельмі цяжкая і адказная справа — якасна выбраць лепшае з такога вялізнага творчага набытку. Дзеля паскарэння працы і давялося звярнуцца па дапамогу да літаратараў, грамадскасці.

Пасля выхаду ў свет кнігі Рыгора Барадуліна, на думку Дубоўскага, трэба было б выдаць выбранае з выбранага іншых выбітных сучасных творцаў: Уладзіміра Арлова, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Някляева, Алеся Разанава... А таксама творцаў, што ўжо пайшлі ад нас, — Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Сербантовіча, Анатоля Сыса, Рыгора Семашкевіча.

Адзін выдавец ці адно выдавецтва такі праект не пацягне. Трэба звярнуцца да свайго ж досведу мінулых гадоў. У 1990 годзе да 500-годдзя Францыска Скарыны рознымі беларускімі выдавецтвамі ў рамках спецыяльнай праграмы было выдадзена шмат грунтоўных, па-мастацку зробленых кніг пра нацыянальнага першадрукара. Дарэчы, у 2017 годзе зноў выключная дата — 500 гадоў беларускага кнігадрукавання.

***

Каб найбольш аб'ектыўна адабраць 100 найлепшых твораў Рыгора Барадуліна, якія ўвойдуць у зборнік, арганізатары звяртаюцца па дапамогу і да грамадскасці.

Будзем вельмі ўдзячныя, калі вы цягам двух месяцаў дашлеце свой спіс дзесяці найлепшых, на вашу думку, вершаў Рыгора Іванавіча на e-mail: vyanok.b@gmail.com.

Таксама чакаем прапановаў наконт аўтараў наступных кніг «Вянка беларускага».

Паводле прэс-службы СПБ

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

## Нортан — сабака, які ўмее ўсміхацца



Нортан патрапіў да валанцёраў «СуперПёс» з пункту адлову на Гурскага. Але нават жахі адлову не зменшылі ягонага аптымізму.

Сабака падобны на вялікага, хітрага і вясёлага ліса, а таксама чымсьці на акцёра Эдварда Нортана.

Сабака чакае свайго самага лепшага гаспадара. А сам ён вельмі добры, абаяльны і прыязны да дзяцей. Цудоўна паводзіць сябе ў кватэры і на выгуле. Нортану толькі 4 гады.

Калі вы шукаеце сябра, які не дазволіць сумаваць, тэлефануйце Алесі 8029-554-64-11, і ён пераедзе да вас!

## Удачка — котка шляхетнага чорнага колеру

Удачцы толькі год, яна стэрылізаваная, прызвычаеная да латку і жыцця побач з іншымі жывёламі.



Котка прыйшла ў гэты свет, каб дарыць пазітыўныя эмоцыі людзям, радаваць сваімі ласкавымі песенькамі і пяшчотна глядзець разумнымі жоўтымі вочкамі.

Імя ў коткі невыпадковае — яна сапраўды прынясе ў ваш дом удачу і цяпло.

Калі аднаго вясновага сонейка вам замала, пазнаёмцеся з Удачкай!

8029-698-05-80 і 8029-313-83-72 Ірэна Сурэнаўна.

Болей катоў і сабак — у каталогах на форуме прытулку «СуперКот» http://forum.superkot.com/

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ПРАЕКТ «ЗАХАПЛЕННІ»

**Грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» пачынае новы відэапраект «Захапленні», які стартуе 19 сакавіка і працягнецца да канца чэрвеня.**

Кожны панядзелак і чацвер вас чакаюць спецыяльныя рэпартажы пра захапленні беларускіх зорак музыкі — такімі вы іх яшчэ не бачылі!

Праект «Захапленні» — гэта серыя незвычайных рэпартажаў з удзелам самых вядомых беларускіх музыкаў. Тры дзясяткі «фільмаў», унікальных паводле фармату і зместу.

«Нам падалася ўдалай знаходка забаўляльнага фармату праекту, — кажа Ніна Шыдлоўская, каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!». — Магчыма, нехта, зацікавіўшыся захапленнем зоркі, адкрые для сябе і яе творчасць. А нехта, пераймаючы ўлюблёнага артыста, пабачыць новае займальнае хобі, зразумее, што ў нас ёсць шмат магчымасцяў жыць разнастайна і цікава. Прэзентуючы гэты праект, мы верым, што калі кожны будзе заняты любімай справай, будзе рабіць гэта добра і з душой, мы разам здолеем змяніць жыццё да лепшага. Малюем краіну разам!»



АБ'ЯВА

**У другой палове сакавіка на сядзібе ТБМ пройдуць наступныя імпрэзы:**

**21 сакавіка 17.30** — у межах кампаніі «Будзьма!» 20 гадоў першай паштовай марцы незалежнай Беларусі

**23 сакавіка 18.30–19.20** — арганізацыйны сход курсаў беларускай мовы для падлеткаў (7–9 класы)

**19.30–20.20** — у межах кампаніі «Будзьма!» 3-ці этап 5 Агульнанацыянальнай дыктоўкі

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 247

Падпісана да друку 16.03.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.